# Пашырым падпіску на газэту „КАЛГАСЬНІК БЕЛАРУСІ“ і часопіс „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“.

**Кожны раён павінен зараз-жа разгарнуць належную работу за выкананьне вызначаных кантрольных заданьняў на газэты і часопісі.**

| Раён | Газэта „Колгасьнік Бел.“ | Часопіс „Шляхі Калектывізацыі“ | Раён | Газэта „Колгасьнік Бел.“ | Часопіс „Шляхі Калектывізацыі“ |
|---|---|---|---|---|---|
| Азарыцкі | 600 | 40 | Лельчыцкі | 550 | 40 |
| Аршанскі | 1500 | 110 | Лёзьнянскі | 950 | 65 |
| Асіповіцкі | 600 | 60 | Лепельскі | 2500 | 85 |
| Асьвейскі | 675 | 52 | Лоеўскі | 1150 | 65 |
| Бабруйскі | 1000 | 100 | Любаньскі | 800 | 40 |
| Багушэўскі | 800 | 80 | Ляднянскі | 450 | 53 |
| Барысаўскі | 1000 | 80 | Магілеўскі | 1600 | 135 |
| Бешанковіцкі | 1000 | 92 | Мазырскі | 1150 | 90 |
| Брагінскі | 1500 | 80 | Межанскі | 600 | 55 |
| Быхаўскі | 1000 | 70 | Менскі | 2250 | 103 |
| Буда-Кашалёўскі | 900 | 40 | Мсьціслаўскі | 1900 | 130 |
| Бягомльскі | 1500 | 120 | Нараўлянскі | 900 | 63 |
| Бялыніцкі | 1200 | 90 | Парыцкі | 1000 | 80 |
| Бярэзінскі | 950 | 70 | Плешчаніцкі | 1250 | 90 |
| Веткаўскі | 1600 | 65 | Полацкі | 1750 | 105 |
| Ветрынскі | 750 | 45 | Прапойскі | 1250 | 70 |
| Валынецкі | 1200 | 80 | Пухавіцкі | 1150 | 85 |
| Віцебскі | 1500 | 90 | Пятрыкоўскі | 1100 | 65 |
| Вульскі | 1200 | 85 | Рагачоўскі | 1300 | 90 |
| Вузьдзенскі | 600 | 60 | Расьнянскі | 825 | 60 |
| Вулацкі | 1300 | 80 | Расонскі | 950 | 55 |
| Высочанскі | 1150 | 60 | Рэчыцкі | 1100 | 70 |
| Гарадоцкі | 800 | 55 | Севенскі | 1900 | 140 |
| Горацкі | 1500 | 105 | Сіроцінскі | 1500 | 100 |
| Гомельскі | 1350 | 45 | Слуцкі | 1650 | 95 |
| Глускі | 1000 | 70 | Смалявіцкі | 900 | 65 |
| Грэскі | 1000 | 72 | Старобінскі | 900 | 55 |
| Дрыбінскі | 850 | 66 | Сураскі | 900 | 68 |
| Дрысенскі | 700 | 68 | Сьвіслацкі | 750 | 57 |
| Дубровенскі | 1050 | 90 | Сьмілавіцкі | 700 | 52 |
| Жлобінскі | 1000 | 55 | Стара-Дароскі | 800 | 60 |
| Журавіцкі | 750 | 42 | Талачынскі | 1500 | 110 |
| Жыткавіцкі | 750 | 55 | Тураўскі | 850 | 70 |
| Заслаўскі | 900 | 40 | Уваравіцкі | 850 | 30 |
| Камарынскі | 900 | 40 | Холопеніцкі | 1000 | 95 |
| Капаткевіцкі | 500 | 40 | Хоцімскі | 1500 | 90 |
| Каралінскі | 1000 | 70 | Хойніцкі | 1100 | 50 |
| Кармянскі | 1250 | 100 | Церахоўскі | 1500 | 60 |
| Касьцюковіцкі | 3150 | 155 | Чачэрскі | 750 | 30 |
| Клімавіцкі | 3500 | 85 | Чарэйскі | 1000 | 110 |
| Клічаўскі | 700 | 65 | Чашніцкі | 1000 | 75 |
| Копыльскі | 1100 | 95 | Чавускі | 1300 | 105 |
| Копыскі | 1200 | 100 | Чачэвіцкі | 350 | 30 |
| Каханаўскі | 1250 | 120 | Чырвонапольскі | 950 | 90 |
| Койданаўскі | 2000 | 95 | Чэрвеньскі | 750 | 53 |
| Круглянскі | 1300 | 95 | Чырвона-Слабодз. | 800 | 35 |
| Крупскі | 600 | 65 | Чэрыкаўскі | 1600 | 92 |
| Крычаўскі | 1500 | 85 | Шклоўскі | 1500 | 100 |
| Лагойскі | 1150 | 60 | Юравіцкі | 600 | 35 |

**Калгасцэнтр БССР.**

## ЧЫТАЧЫ!

Апошні тэрмін здачы падпіскі на газэту „КАЛГАСЬНІК БЕЛАРУСІ“, на часопісы „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“, „ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“ і „КААПЭРАЦЫЯ БССР“ 23 чысла кожнага месяцу.

Падпіску здавайце ў бліжэйшыя паштовыя аддзяленьні альбо лістаносцу. Сваячасовая здача падпіскі гарантуе акуратную дастаўку.

**Выдавецтва ЦК КП(б)Б „КАЛГАСЬНІК БЕЛАРУСІ“**

*Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!*


# Шляхі калектывізацыі

ОРГАН НАРКАМЗЕМУ І КАЛГАСЦЭНТРУ БССР

Адрас рэдакцыі: Менск, Савецкая, 68 2 паверх, тэл. 14—60

№ 13 — ліпень — 1931

ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ


# ПАД СЬЦЯГАМІ ЛЕНІНСКАЙ ПАРТЫІ— ДА НОВЫХ ПЕРАМОГ САЦЫЯЛІЗМУ!

**Ад руін да буйных заводаў, фабрык і электрастанцый, да буйных саўгасаў і калгасаў—вынік упартай барацьбы і працы рабочае клясы і працоўнага сялянства БССР за 11 год пад кіраўніцтвам КП(б)Б пры вялікай дапамозе Савецкага Саюза**

11 год як Беларусь вызвалена ад белапольскіх акупантаў. 11 ліпеня 1920 году рабочая кляса, апіраючыся на беднякоў ў саюзе з серадняцкімі масамі сялянства пад кіраўніцтвам камуністычнае партыі, магутным уздымам рэвалюцыйнага энтузіязму пры дапамозе братэрскіх савецкіх сацыялістычных рэспублік і Чырвонай арміі, ачысьцілі Беларусь ад белапольскіх драпежнікаў—акупантаў.

Міжнародны імпэрыялізм, скарыстоўваючы розныя белагвардзейскія банды, у тым ліку і фашыцкую Польшчу, імкнуліся задушыць рэспубліку дыктатуры пралетарыяту і зноў зрабіць рабочых, батрацтва і бядняцка-серадняцкае сялянства рабамі капіталістых і абшарнікаў.

Пілсудзкі з сваёй узброенай белапольскай бандай нёс для працоўных БССР старыя парадкі—капіталістага, абшарніка, паліцэйскага і г. д. Зварот фабрык і заводаў капіталістам, зварот адабранай ад паноў і кулакоў зямель, буржуазны строй нацыянальны і культурны ўціск і прыгнечаньне.

Да Кастрычнікавай рэвалюцыі ўсе землі па аўладаньні імі падзяляліся так: а) сялянскіх зямель (падзеленых і купленых) 31,5 проц.; б) уласьніцкіх зямель да 50 гэктараў на гаспадарку—1,9 проц.; в) уласьніцкай у разьмеры звыш 50 гэктараў на гаспадарку (г. зн. у кулакоў і паноў)—56,3 проц.

Невялікая колькасьць кулакоў і паноў да агульнай колькасьці насельніцтва мела ў сваім распараджэньні большую палову ўсіх зямель. Батракі, беднякі і значная частка сераднякоў працавалі на пана і кулака. Пан і кулак жылі потам і крывёю батрака, бедняка і серадняка.

Сілай падтрымліваючы пілсудчыну і актыўнымі дапаможнікамі акупантам

зьяўляліся абшарнікі, кулакі, духавенства (папы, ксяндзы), гарадзкая буржуазія. Вялікую дапамогу аказалі белапольскім акупантам і беларускія нацыяналістычныя элемэнты—шавіністыя, якія пад нацыянальнай шыльдай выконвалі здрадніцкую ролю да працоўных мас савецкай Беларусі.

Аднак рабочая кляса БССР у саюзе з працоўным сялянствам, сваёй адданасьцю справе пралетарскай рэвалюцыі пад кіраўніцтвам камуністычнае партыі пры дапамозе рабочае клясы ўсяго Савецкага Саюзу і Чырвонай арміі паклалі канец зьдзекам пілсудчыны і забясьпечылі мірнае будаўніцтва сацыялізму.

Пралетарыят, апіраючыся на беднату ў саюзе з серадняцкімі масамі сялянства пад кіраўніцтвам камуністычнае партыі пры вялізарнай дапамозе з боку ўсяго Савецкага Саюзу зьнішчылі цяжкую спадчыну белапольскай акупацыі.

За 11 год мірнага сацыялістычнага будаўніцтва Савецкая Беларусь гіганцкімі крокамі ідзе па шляху будаўніцтва сацыялізму. З адсталае аграрнае краіны Беларусь ператвараецца ў краіну буйнай прамысловасьці, краіну буйнай сацыялістычнай сельскай гаспадаркі. У некалькі разоў узрасла прамысловасьць толькі ў параўнаньні з 1927-28 годам у 4 разы павялічылася колькасьць выраблепай прамысловасьці прадукцыі. З 10 мільёнаў 800 тысяч руб. капітальныя ўкладаньні ў прамысловасьць у 1926 27 годзе павялічылася да 90 млн. у 1931 годзе.

На аснове пасьпяховага вырашэньня задач індустрыялізацыі краіны, пасьпяхова праводзіцца сацыялістычная рэканструкцыя сельскай гаспадаркі. Замест дробнае нізкатаварнай аднаасобнай гаспадаркі—будуюцца буйныя высокатаварныя калектыўныя гаспадаркі. Шпарка разгортваецца саўгаснае будаўніцтва. Пашыраюцца і спэцыялізуюцца саўгасы, якія зьяўляюцца прыкладам таго, як трэба арганізаваць буйную сацыялістычную гаспадарку.

Мы ўступілі ў 12-ты год мірнае працы па будаўніцтву сацыялізму з вялізарнымі, маючымі гістарычнае значэньне, посьпехамі ў калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Аб пераможных посьпехах сацыялістычнае рэканструкцыі сельскае гаспадаркі сьведчаць наступныя даныя.

Колькасьць калгасаў па гадох:

| 1924 г. | 1926 г. | 1928 г. |
|---|---|---|
| 408 | 413 | 994 |
| 1929 г. | 1930 г. | 1931 г. |
| 1.713 | 3.021 | 8.600 |

Амаль у кожнай вёсцы мы маем ужо зараз калгасы.

Колькасьць калектывізаваных гаспадарак

| 1926 г. | 1928 г. | 1929 г. | 1930 г. | 1931 г. |
|---|---|---|---|---|
| 4.237 | 8.499 | 25.830 | 87.255 | 312.000 |

Звыш 40 проц. усіх бядняцка-серадняцкіх гаспадарак ужо аб'яднана ў калгасы. Шэраг раёнаў ужо завяршаюць суцэльную калектывізацыю (Лепель, Койданава, Хоцімск і інш.). Ліквідуецца апошняя апора і сіла, на якую апіраліся акупанты і на якую яны разьлічвалі—кулацтва як кляса, калгасы ўжо ў першыя гады свайго існаваньня паказалі вялізарныя перавагі над дробнай аднаасобнай гаспадаркай. Плян сяўбы яравых калгасы выканалі на 103,4 проц., пашыраецца засеў працаёмкіх таварных культур.

Тэхнічных культур у калгасах засеяна 128 тысяч 304 *га*. У тым ліку толькі аднаго лёну 108 тысяч 166 *га*. На адну сям'ю ў калгасах засеяна яравых у паўтары, а тэхнічных культур у два разы больш, чым на адну аднаасобную гаспадарку. Разгорнута вялікая работа па

## ТОЛЬКІ КАМУНІСТЫЧНАЯ ПАРТЫЯ ПРАВІЛЬНА ВЫРАШЫЛА НАЦЫЯНАЛЬНАЕ ПЫТАНЬНЕ

спэцыялізацыі калгасаў, разгортваецца калгасная жывёлагадоўля.

Карэнным чынам зьмяніліся клясавыя суадносіны сіл на вёсцы. Пашырылася і з кожным днём усё больш і больш умацоўваецца база сацыялізму на вёсцы—сацыялістычны сэктар сельскае гаспадаркі. Калгаснае сялянства зьяўляецца ўжо ня толькі асноўнай і галоўнай апорай партыі і ўладу на вёсцы, але і цэнтральнай фігурай землянробства.

Ужо з усёй адказнасьцю можна сказаць, што калгасы ў гэтым годзе дадуць сацыялістычнай прамысловасьці большую колькасьць таварнага лёну, чым дала ўся сельская гаспадарка ў мінулым 1930 годзе. Вытворчасьць лёну з 1916 году ўсёй сельскай гаспадаркі ўжо заменена вытворчасьцю толькі адных калгасаў. Замест 94 тысячы *га* ільну—пасеваў у 1916 годзе толькі пры 40 проц. калектывізацыі засеяна ў калгасах у гэтым годзе 108 тысяч *га* ільну.

Паказаныя посьпехі сацыялістычнага будаўніцтва зьяўляюцца лепшым доказам правільна генэральнай лініі партыі. Гэтыя посьпехі дасягнуты ў выніку рашучай барацьбы і наступленьня на капіталістычныя элемэнты, рашучай барацьбы з правымі апартуністымі і іх саюзьнікамі „левымі“ загібшчыкамі. У барацьбе з контррэвалюцыйным нацыянал-дэмакратызмам у БССР, вялікадзяржаўным шавінізмам і шавінізмам іншых колераў.

Уступаючы ў 12-ты год мірнае працы і барацьбы за сацыялізм, мы павінны не забываць аб небясьпецы новай інтэрвэнцыі, аб небясьпецы новых нападаў на СССР з боку імпэрыялістых. Капіталістычныя краіны, разьдзіраемыя эканамічным крызісам, развалам шэрагу галін гаспадаркі, усякую мажлівасьць будуць пытацца скарыстоўваць для нападу на нас.

Працоўныя БССР, знаходзячыся на мяжы з капіталістычным сьветам, асабліва павінны пільна сачыць за ворагам і пад кіраўніцтвам КП(б)Б і яе Ленінскага ЦК, змагаючыся і перамагаючы перашкоды, апракідваючы апартуністычныя рагаткі, ліквідуючы кулацтва як клясу на базе суцэльнай калектывізацыі, з яшчэ большай энэргіяй павінны мацаваць абараназдольнасьць нашай пралетарскай бацькаўшчыны, узмацняючы тэмпы сацыялістычнага будаўніцтва.



**Былы маёнтак графа Тышкевіча (Лагойскі раён), зараз тут калгас.**

**У дзень адзінаццацігодзьдзя вызваленьня БССР ад белапалякаў—наша братэрскае прывітаньне працоўным Заходняй Беларусі і Польшчы, якія геройчна змагаюцца з польскім фашызмам**

# Заходня-беларуская вёска ў цісках польскага фашызму, акупацыі і крызісу

Сялянства Заходняй Беларусі, якое знаходзіцца ў цісках польскай акупацыі, нясе і адчувае на сваіх плячах увесь цяжар ня толькі каленіяльнай эксплёатацыі і ўціску з боку польскіх імпэрыялістаў-акупантаў, але таксама ўвесь цяжар таго глыбокага эканамічнага крызісу, які цяпер перажывае Польшча разам з усім капіталістычным сьветам. Зямельная палітыка фашыстоўскага ўраду Пілсудзкага (камасацыя, ліквідацыя сэрвітутаў і парцэляцыя) імкнецца да таго, каб утрымаць слабеючыя пазыцыі капіталістычных элемэнтаў на вёсцы (капіталістычны абшарнік, кулак, асаднік), каб праз гэта самае знайсьці апору для ўтрыманьня фашыстоўскай дыктатуры ўва ўсёй Польшчы, каб узяць у ціскі капіталістычнай эксплёатацыі і грабежы найшырэйшыя масы сялянства. Усё гэта адбываецца ва ўмовах агульнага і вострага крызісу капіталізму; ва ўмовах існаваньня СССР, дзе пераможна будуецца сацыялізм, дзе больш як 54 проц. сялянскіх гаспадарак аб'яднаны ў калгасы і на вёсцы ліквідуюцца рэшткі капіталістычных элемэнтаў (кулакі), і асноўная маса, сялянства з году ў год паляпшае сваё матар'яльнае становішча; усё гэтае адбываецца ва ўмовах абвастрэньня клясавай барацьбы і нарастаньня рэвалюцыйнай сітуацыі ва ўсёй Польшчы, калі прамысловыя рабочыя і сялянская маса, навучаныя досьледам рабочых і сялян СССР, не даюцца спакойна грабіць і абдзіраць, а вядуць упартую барацьбу супроць капіталістычна-абшарніцкай эксплёатацыі і фашыстоўскай дыктатуры.

Гэтая барацьба зьяўляецца тым магутным чыньнікам, які паралізуе і разьбівае зьдзейсьненьне імкненьняў фашыстоўскага ўраду, сацыяльная падстава якога звужваецца і слабее.

У адносінах да акупованых польскім імпэрыялізмам заходня-беларускіх і заходня-украінскіх зямель, зямельная палітыка фашыстоўскага ўраду мае яшчэ на мэце ўмацаваньне падстаў акупацыі гэтых зямель, далейшае ўтрыманьне іх у арганізьме буржуазнай Польшчы, стварэньне дзякуючы кулацкім і абшарніцкім гаспадаркам апоры для гэтай акупацыі і падрыхтаваньне тылоў для ўзбройнага нападу на СССР.

Барацьба рабочых і сялян Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны супольна з рабочымі і сялянамі ўсёй Польшчы супроць сацыяльнага і нацыянальнага ўціску, супроць фашыстоўскай дыктатуры разьбівае пляны акупантаў.

### Фашыстоўскі ўрад адбірае ў сялян лепшыя землі і перадае іх абшарнікам

Пры правядзеньні фашыстоўскай камасацыі, гэта значыць пры зьнішчэньні цераспалосіцы і пры закругленьні зямель рознымі спосабамі грабіцца вясковая бедната і серадняк і і збагачаюцца пры гэтым кулакі, абшарнікі і асаднікі.

Камасацыя праводзіцца прымусова, прычым пускаецца ў ход увесь апарат дзяржаўнага прымусу, подкупу і ашуканства. Пры зьніштажэньні цераспалосіцы, пры закругленьні гаспадарак, кулакі і асаднікі забіраюць сабе найлепшыя кавалкі зямлі, адпіхваюць бяднейшае сялянства на горшыя землі, альбо далей ад іх будынкаў. Кошт усёй гэтай прымусовай камасацыі кладзецца на плечы саміх сялян. Пры выкананьні памераў зямлі, шырокія сялянскія масы звычайна ашукоўваюцца. Новыя скамасаваныя ўжо кавалкі зямлі маюць папросту меншы лік гектараў, як было перад камасацыяй у агульнай суме розных шнуроў і палосак. Каморнікі і ўвесь апарат мясцовай улады, зразумелая рэч, становяцца на баку кулакоў і асаднікаў. На абшарах Зах. Беларусі такім спосабам за 10 год з 1919 па 1929 год было скамасавана 77.241 сялянская гаспадарка (45 проц. усіх сялянскіх гаспадарак) з плошчай зямлі ў 662.729 гектараў (55 проц. усёй плошчы сялянскіх гаспа-

дарак). Асабліва пасьпяхова праводзілася гэтая камасацыя ад часоў існаваньня фашыстоўскай дыктатуры Пілсудзкага (з мая 1926 г.). Сьведчаць аб гэтым лічбы толькі за два гады (1928-29 г.), калі на Зах. Беларусі было скамасавана 44.742 гаспадаркі (з агульнага ліку 77.241 за 10 год). З агульнай плошчы зямлі 403.282 гектараў (з агульнага ліку 762.729 за 10 год).

### Працоўнае сялянства пазбаўляецца пасьбішчаў для жывёлы

Адначасова з правядзеньнем камасацыі, фашыстоўскі ўрад праводзіць ліквідацыю сэрвітутаў і парцэляцыю маёнткаў, што таксама зьяўляецца складанай часткай зямельнай палітыкі фашызму.

Ліквідацыя сэрвітутаў,—гэта значыць ліквідацыя права сялян на карыстаньне пасьбішчаў, права зьбіраньня дрэва, ягадаў і грыбоў у лясох і на землях, якія належаць абшарнікам. Урад ліквідуе гэтыя сэрвітуты, абшарнік вырубае лясы, прадае зямлю, якая знаходзіцца пад сэрвітутамі. Такім чынам сяляне пазбаўляюцца ўсіх правоў, вынікаючых з сэрвітутаў і ўзамен гэтага нічога не атрымоўваюць, так што гэта ёсьць звычайны рабунак шырокіх сялянскіх мас.

За 10 год на абшарах Зах. Беларусі было зьліквідавана сэрвітутаў у 46.460 гаспадарак з агульнай плошчай зямлі, якая знаходзілася пад сэрвітутамі 122.667 *га*. Асабліва адбываецца ліквідацыя сэрвітутаў у апошнія гады.

Гэтае мерапрыемства ідзе па лініі ліквідацыі рэшткаў фэадальных элемэнтаў і імкнецца да ўтрыманьня капіталістычных форм і спосабаў эксплёатацыі сялянскіх мас. У канкрэтных умовах Зах. Беларусі і Зах. Украіны служыць мэтам павялічэньня ліку асаднікаў і ўмацаваньня кулацкіх гаспадарак, мэтам умацаваньня польскай акупацыі на заходня-беларускіх землях. Для найшырэйшых бядняцка-серадняцкіх мас сялянства гэта дае толькі ўмацаваньне ярма капіталістычнай эксплёатацыі ня толькі з боку капіталістычнай дзяржавы, але таксама і з боку абшарніка і капіталіста, кулака і асадніка, акружаючы іх (беднякоў і сераднякоў) моцным ланцугом кулацкіх гаспадарак, аддаючы іх у эксплёатацыю кулакам.

### Помста сялян расьце

Зразумелая рэч, што асноўная маса сялянства ня можа спакойна сядзець і глядзець, калі яго грабяць і ашукоўваюць, спіхваюць на дно нішчаты і голаду, яны вядуць супроць зямельнай палітыкі фашызму вострую барацьбу рознымі спосабамі. Весткі з паасобных раёнаў Зах. Беларусі з вясны гэтага году гавораць, што камасацыя шмат дзе ўстрымоўваецца, дзякуючы супраціўленьню сялян. У шэрагу вёсак Тэраспольскага раёну сяляне выступілі супроць фашыстоўскай камасацыі і фашыстоўскай улады, дзякуючы чаму фашысты павінны былі адкласьці правядзеньне камасацыі на год. Растуць настроі пагрозы помсты кулакам, якія хочуць камасацыі. Сяляне пачынаюць паліць кулацкія і асадніцкія гаспадаркі, гоняць з палёў каморнікаў, даходзіць да сутычак з паліцыяй і да масавых арыштаў бунтуючых сялян. Самыя апошнія весткі гавораць аб тым, што на грунце камасацыі сяляне масава выступаюць да барацьбы супроць фашыстоўскіх уладаў, кулакоў і асаднікаў; у паасобных мясцох даходзіць да ўзбройных сутычак. Як, напрыклад, у вёсках Крываносы і Пасынкі Валкавыскага павету, і ў вёсцы Лучыны ў Каменец-Кашырскім павеце, дзе 1000 узброеных у вілы і сякеры сялян прагналі з палёў урадкікаў, праводзячых камасацыю і мэліярацыю.

Фашыстоўская зямельная палітыка паглыбляе клясавыя супярэчнасьці ў заходня-беларускай вёсцы і завастрае клясавую барацьбу беднаты і сераднякоў супроць польскіх імпэрыялістаў і іх саюзьнікаў—асаднікаў і беларускіх кулакоў.

### Падаткі фашыстоўскай улады душаць рабочых і сялян

Але сялянства Зах. Беларусі церпіць ня толькі ад вынікаў грабежніцкай камасацыі, яно сьціснута ў абцугі падат-

ковага ўціску і прымусовых дзяржаўных павіннасьцяй, так званых шарваркаў. Фашыстоўскі ўрад падрыхтоўвае вайну супроць СССР, умацоўвае тэрор супроць рэвалюцыйных рабочых і сялян ва ўсёй Польшчы, утрымоўвае ў ціскох акупацыі Зах. Беларусь і Зах. Украіну, а для гэтага ўзбройваецца, утрымоўвае вялізную сталую армію і цэлую сетку напоўваенных фашыстоўскіх арганізацый, цэлую армію паліцыі, ксяндзоў, пракурораў і правакатараў і дзяржаўных урадоўцаў. Гэты аграмадны мілітарна-бюрократычны паразыт сядзіць на целе працоўных мас і як крывасмок выцягвае з яго астатнія кроплі крові.

Для ўтрыманьня гэтага апарату прымусу, тэрару і акупацыі, дзяржаве патрэбны аграмадныя выдаткі, якія сьцягваюцца пры дапамозе падаткаў з шырокіх масаў рабочых і сялян. Сума гэтых падаткаў як пасрэдных, так і беспасрэдных стала ўзрастае. Бюджэт польскай дзяржавы за часы фашыстоўскай дыктатуры дайшоў да трох мільярдаў злотых. Да гэтага трэба яшчэ дадаць рознага роду іншыя падаткі, як самаўрадавыя, гмінныя, прымусовая страхоўка і г. д., якія часта перавышаюць сумы дзяржаўных падаткаў, так, напрыклад, толькі самаўрадавы бюджэт ва ўсёй Польшчы ў 1929 г. складаў 1 мільярд 300 мільёнаў злотых (у 1926 г. ён складаў толькі 485 мільёнаў злотых). Па дадзеных польскага буржуазнага друку („Польска Господарча“) усіх падаткаў на аднаго чалавека ў Польшчы прыходзілася ў 1928 г. каля 150 злот. Калі лічыць у сярэднім сялянскую сям'ю ў 5 чалавек, дык гэта будзе 750 злотых у год. За апошнія два гады гэтыя падаткі ўзрасьлі яшчэ больш. Характэрны, напрыклад, дадзеныя аб разьмеры беспасрэдных падаткаў на аднаго жыхара, якія ў параўнаньні з 1911 годам узрасьлі аж на 310 проц. (болей, як у тры разы). Сам польскі буржуазны друк вымушаны прызнаць, што падатковыя цяжары ў Польшчы цяпер шмат большыя, чым у былой царскай Расіі.

Апрача гэтага, мясцовыя ўлады шырока ўводзяць сыстэму штрафаў і рознага роду дробных караў. Вось сьпіс паасобных галін, за якія бяруцца штрафы: конь павінен быць закілзаны, павінен мець добры выгляд, пад дугой павінен быць званок, пры возе павінна быць дашка з надпісам прозьвішча гаспадара, хата з надворку павінна быць пабелена. Вядро пры студні павінна быць прыкована, сабака—на прывязі і г. д. За невыкананьне гэтага бярэцца ад 1 да 3 злотых. Гэта страшэнна дакучае сялянам, а асабліва жанчынам, якія часта ўхватамі і чапёламі гоняць з вёсак дзяржаўных зборшчыкаў (экзэкутараў) і паліцыю.

Падаткі ў Польшчы заўсёды ляжалі цяжарам і душылі сялян, цяпер-жа, у пэрыяд глыбокага крызісу, як прамысловага, так і сельскагаспадарчага, у выніку гвалтоўнага паніжэньня цэн на збожжа і жывёлу, уплачваць усе дзяржаўныя падаткі робіцца проста немагчымым.

| | 1927 г. | 1928 г. | 1929 г. | 1930 г. | Проц. паніжэньня цаны |
|---|---|---|---|---|---|
| За пуд жыта | 6 зл. | 5 зл. | 3 зл. | 2 зл. | 300 проц. |
| За пуд лёну | 50 „ | 40 „ | 25 „ | 8 „ | 600 „ |
| За 1 штуку жывёлы вагай 400 *кг.* | 400 „ | 400 „ | 300 „ | 160—180 | 300 „ |

Падаткі руйнуюць шырокія пласты беднага і сярэдняга сялянства, штурхаюць іх на дно нішчаты і голаду, прымушаюць прадаваць зямлю і інвэнтар, цэны на якія таксама нізкія, прымушаюць рабіць кабальныя пазычкі ў мясцовых банках і г. д. Рабочных прыработкаў,—дзякуючы таму-ж крызісу, і беспрацоўю,—ніякіх няма і сялянству проста хоць памірай. Фашыстоўская дзяржава і фашыстоўскія самаўрады ўсё мацней заціскаюць шрубы падатковага ўціску і гвалтам выціскаюць з сялян апошні грош, што потым ідзе на ўзбраеньне, на новыя танкі, на атраўляючыя газы для нападу на БССР і СССР.

Экзэкутары разам з паліцыяй езьдзяць па вёсках, гвалтам забіраюць у сялян за падаткі астатнюю карову, сьвіньню, падушкі, кажухі і г. д. Усё гэта потым прадаецца з ліцытацыі, гэта значыць з масавага торгу на найбліжэйшым

рынку і карыстаюцца з гэтага, бязумоўна, ў першую чаргу асаднікі, кулакі, дзяржаўныя ўрадоўцы, самі-ж экзэкутары і паліцыя. Большасьць сялянскіх мас ужо настолькі сьвядомы, што байкатуюць гэтую ліцытацыю і нават пагрозамі забараняюць другім купляць, бо добра ведаюць, што ня можна карыстацца з руіны другога і што іх саміх заўтра можа спаткаць такі-ж самы лёс.

Але вобраз падатковага ўціску ня будзе поўны, калі памінуць гэтак званыя шарваркі, гэта значыць прымусовыя дзяржаўныя павіннасьці (фактычна існуючую ў Польшчы прымусовую працу). Гэта адбываецца ва ўсёй Польшчы, але асабліва на Зах. Беларусі і Зах. Украіне, бо шарваркі маюць служыць ваенна-стратэгічным мэтам. Сялян разам з падводамі гвалтам гоняць на пабудову дарог, мастоў, на пабудову мэліарацыйных каналаў і г. д. Прычым робіцца гэта пераважна летам, калі для селяніна кожны страчаны дзень, а яшчэ з канём, можа проста змарнаваць усю яго працу ў сваёй гаспадарцы.

### Кампартыя Зах. Бел. і Польшчы на чале барацьбы з дыктатурай Пілсудзкага

Зразумела, рэшта сялянства не дазваляе сябе спакойна грабіць і руйнаваць. Масава адмаўляецца плаціць падаткі і выконваць шарваркі, гоніць вон экзэкутараў і паліцыю. На гэтым грунце даходзіць да масавых сутычак паміж сялянамі і акупанцкімі ўладамі. Сяляне штораз часьцей хапаюцца за аружжа, вядуць узброеныя сутычкі з паліцыяй як у Цэнтральнай Польшчы, таксама і ў Зах. Беларусі.

Камуністычная партыя Зах. Беларусі, як і Камуністычная партыя Польшчы выкінулі цяпер лёзунг „*Ані граша падатку фашыстоўскаму ўраду голаду, тэрару, вайны і беспрацоўя*". Гэты лёзунг ідзе з вёскі да вёскі з хаты да хаты і мабілізуе шырокія сялянскія масы на барацьбу супроць падаткаў, супроць фашыстоўскай камасацыі, супроць фашыстоўскай дыктатуры.

Барацьба супроць падаткаў на даным адрэзку часу зьяўляецца вузлавым, галоўным пунктам, вакол якога разьвіваецца рэвалюцыйная барацьба сялянскіх мас як у Польшчы, так і ў Зах. Беларусі. Калі да ўсяго гэтага дадаць яшчэ градабіцьце і паводку ў некаторых паветах Зах. Беларусі (Сьвенцянскі, Браслаўскі, Лідзкі, Маладэчанскі), якая зьніштожыла дзесяткі тысяч гектараў сялянскіх засеваў і тысячы іх будынкаў, а ўрад дае толькі мізэрныя грашы дапамогі, дык стане зусім ясным вобраз нішчаты і голаду, які запанаваў на вёсцы Зах. Беларусі.

Гэты сацыяльны ўціск сялянства ў Зах. Беларусі ідзе разам з нацыянальным уціскам і масавым белым тэрорам. Разгромлены ўсе беларускія школы; увайшоў у жыцьцё дэкрэт прэзыдэнта Польшчы, што ў працягу 7 год ня можа быць адчынена аніводная беларуская школа, нядаўна ў Клецку зачынена беларуская гімназія. Тысячы рэвалюцыйных рабочых і сялян сядзяць па вастрогах, ужо шмат гадоў замураваны ў вастрогах паслы рабочых і сялян Зах. Беларусі Тарашкевіч, Валошын, Гаўрылік, Дварчанін і Крынчык. На гарады і вёскі Зах. Беларусі штораз часьцей наяжджаюць карныя экспэдыцыі фашыстоўскіх разбойнікаў (Падбродзьдзе, Кобрын). Астатнія часы ўся Віленшчына ўключана ў гэтак званую пагранічную паласу і адразу пачалося высяленьне адтуль рэвалюцыйных рабочых і сялян, што фактычна азначае ссылка іх у канцэнтрацыйныя абозы Цэнтральнай Польшчы.

Усё гэта з магутнай сілай штурхае сялянскую беднату і серадniakoў Заходняй Беларусі і ўсяе Польшчы на шлях масавай рэвалюцыйнай барацьбы, робіць з іх моцнага саюзьніка пралетарыяту ў яго барацьбе супроць фашыстоўскай дыктатуры, за дыктатуру пралетарыяту, за зямлю сялянам бяз выкупу, за самавызначэньне для Зах. Беларусі і Зах. Украіны аж да аддзяленьня шляхам рэвалюцыі і ўзбройнага паўстаньня.

П. Крэвіч.

# Шырэй фронт калектывізацыі

**НА АСНОВЕ ПАПУЛЯРЫЗАЦЫІ РАШЭНЬНЯЎ ПЛЕНУМУ ЦК—АРГАНІЗУЕМ НОВЫ КАЛГАСНЫ ПРЫЛІЎ МАЦНЕЙ АГОНЬ ПА КУЛАКУ І ЯГО АГЭНТАХ—ПРАВЫХ І „ЛЕВЫХ“ АПАРТУНІСТЫХ**

## НАПЕРАД ДА НОВЫХ ПЕРАМОГ!

11—15 чэрвеня адбыўся пленум Цэнтральнага Камітэту УсеКП(б). Першым пытаньнем пленум ЦК разгледзіў папярэднія вынікі веснавой сяўбы і намеціў канкрэтныя задачы ўборачнай кампаніі. Пленум адзначыў, што *„ў выніку вясны 1931 году калектыўны рух атрымаў рашаючыя перамогі ў большасьці раёнаў і вобласьцяй па асноўных галінах сельскай гаспадаркі СССР“.*

У асноўных збожжавых раёнах, як-та: украінскі стэп, паўночны Каўказ, ніжняя Волга, Заволжжа сярэдняй Волгі, Крымскі стэп,—калектывізацыя сельскай гаспадаркі завершана. У гэтых раёнах калгасамі ахоплена звыш 80 проц. агульнага ліку сялянскіх гаспадарак і больш 90 проц. усяго сялянскага пасеву і сродкаў сельскагаспадарчай вытворчасьці. Калектывізацыя астатніх збожжавых раёнаў дасягае звыш 50 проц. па гаспадарках і звыш 60 проц. па пасевах, „што дае мажлівасьць у асноўным завяршыць тут суцэльную калектывізацыю ў гэтым годзе і ва ўсякім выпадку не пазьней вясны 1932 году“.

У нас у БССР, па зьвестках на 20 чэрвеня, калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак дасягнула звыш 38 проц. Перадавымі раёнамі па калектывізацыі ідуць: Койданаўскі раён калектывізаваны на 85,3 проц., Лепельскі—78,9 проц., Хоцімскі—72,1 проц., Клімавіцкі—70 проц., Мсьціслаўскі—69,7 проц., Межанскі—63,7 проц., Сіроцінскі—63,5, Менскі—62,5.

„Усё гэта адзначае, што тэмпы калектывізацыі, вызначаныя пастановай Цэнтральнага Камітэту партыі ад 5 студзеня 1930 году, пастановамі 16 зьезду партыі і 6 зьезду саветаў ужо перавыкананы“ (з пастановы пленуму ЦК). Таксама перавыканана заданьне па калектывізацыі БССР, якое было вызначана XIII зьездам і студзеньскім пленумам ЦК КП(б)Б на вясну гэтага году.

Пленум Цэнтральнага Камітэту таксама адзначыў новыя ўзоры высокай прадукцыйнасьці працы калектыўных гаспадарак. Калі, напрыклад, у маі мінулага году пасеў па калгасах СССР у адну пяціднёўку дасягаў 6 мільёнаў *га*, дык сёлета—9—10 мільёнаў у адну пяціднёўку мая месяца. Машына-трактарныя станцыі апрацавалі звыш 20 мільёнаў *га*, што складае звыш трэцяй часткі яравых пасеваў калектыўных гаспадарак. На аднаго калгаснага каня пасеў перавысіў амаль утрое супроць пасеву на аднаго каня ў аднаасобнай сялянскай гаспадарцы. Пасеў на двор у калгасе таксама перавышае ў 2—3 разы на двор аднаасобніка. Разам з гэтым значна палепшылася апрацоўка зямлі ў калгасах.

*„З гэтага вынікае, што калгаснае сялянства ператварылася ўжо ў цэнтральную фігуру земляробства, калгасы сталі асноўным прадуктарам ня толькі ў галіне збожжа, але і важнейшага сельскагаспадарчага сырцу (хлапок, буракі, сланэчнік і г. д.)“* (з пастановы пленуму ЦК).

*„Аднак,* — падкрэсьлівае пленум ЦК УсеКП(б),—*вопыт мінулага году паказвае, што супакоіцца на посьпехах калектывізацыі і пасеўнай кампаніі і недаацаніць усёй сур'ёзнасьці задач у галіне ўмацаваньня калгасу і ўборкі ўра-*

*джаю значыла-б нанесьці аграмадную шкоду справе калектывізацыі*". Таму, гаспадарчаму ўмацаваньню калгасаў і ўборцы ураджаю павінна быць зьвернута выключная ўвага партыйных, савецкіх, прафсаюзных арганізацый і ўсёй калгаснай сыстэмы.

Уборачная кампанія зьяўляецца рашаючай у справе замацаваньня дасягнутых у веснавую сяўбу посьпехаў калектывізацыі і арганізацыі новага яшчэ больш моцнага прыліву ў калгасы бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Дзякуючы таму, што ў мінулым годзе шырока практыкавалася разьмеркаваньне прыбыткаў калгасаў не па працы, а па душах, побач з недастатковым вопытам вядзеньня буйнай гаспадаркі,—павяло да таго, што шмат у якіх выпадках уборка ўраджаю ня была даведзена да канца і, бязумоўна, страты калгасы панесьлі вялікія.

Таму пленум Цэнтральнага Камітэту партыі прапанаваў: „*усё без выключэньня работы ў калгасах павінны быць арганізаваны на аснове зьдзельшчыны з тым, каб самыя формы зьдзельшчыны былі найбольш простымі і зразумелымі кожнаму калгасьніку, і колькасьць працадзён, якая прылічваецца калгасьніку магла быць запісана ў яго працоўную кніжку без складаных разьлікаў, з улікам пры гэтым ня толькі колькасьці праведзенай работы, але і яе якасьці*".

Гэтая дырэктыва пленуму ЦК павінна быць безадкладна праведзена ў жыцьцё усімі калектыўнымі гаспадаркамі. Фармальны (на паперы) пераход на зьдзельшчыну ў шэрагу калгасаў павінен быць зараз-жа заменен сапраўдным пераводам усіх работ на зьдзельшчыну з дасканалым улікам працы і абавязковым запісам у працоўную кніжку калгасьніка колькасьці і якасьці выконваемай калгасьнікам работы.

Разьмеркаваньне даходаў у калгасах павінна праводзіцца выключна па колькасьці і якасьці выкананай кожным калгасьнікам работы і „павінна быць скончана не пазьней 15—20 студзеня".

Не чакаючы сканчэньня ўборкі ураджаю, павінна распачацца хлебазагатоўчая кампанія, якая мае ня менш важнае гаспадарча-палітычнае значэньне, чым уборка. Калгасы павінны ў тэрмін і поўнасьцю выканаць свае абавязацельствы перад дзяржавай, адначасова цягнуць за сабой бядняцка-серадняцкія гаспадаркі аднаасобнікаў па здачы хлебных таварных лішкаў дзяржаве. У справе здачы (продажу) таварнай прадукцыі, машына - трактарныя станцыі павінны



Выдача працоўных кніжак калгасьнікам (калгас імя Тэльмана, Койданаўскі р.).



Брыгадзір падлічвае вырабатак прапольшчыц. (Калгас імя Тэльмана, Койданаўскі раён).

адыграць надзвычайна аграмадную ролю. Пленум ЦК паказаў, што *„здача тавárнай прадукцыі калгасаў становіцца непасрэднай задачай машына-трактарных станцый. МТС, праз якіх рабочая кляса Савецкага Саюза вядзе справу тэхнічнага пераўзброеньня калгаснага сялянства, павінны выканаць стаячыя перад імі задачы ўборкі і здачы збожжа і тэхнічных культур з ня меншым посьпехам, чым яны выканалі і перавыканалі пасеўныя заданьні“.*

Уборачная кампанія павінна быць цесна ўвязана з далейшым правядзеньнем суцэльнай калектывізацыі і ліквідацыі на гэтай аснове кулацтва як клясы.

Складанасьць правядзеньня ўборачнай кампаніі вялікая, таму, што зацяжная вясна, а разам з гэтым і сяўба—патрабуе выключнага ўменьня арганізаваць работу па ўборцы ўраджаю так, каб ніводнай хвіліны не прайшло дарам. Акрамя таго трэба прыняць яшчэ пад увагу і тое, што ў значнай сваёй частцы ўборка супадае з асеньняй сяўбой, зяблевай успашкай і разгортваньнем хлебазагатовак. Але няўхільнае, баявое правядзеньне ў жыцьцё вынесеных пленумам Цэнтральнага камітэту ЎсеКП(б) рашэньняў, рашучае далейшае наступленьне на кулацтва, няпрымірымая барацьба з агентамі кулака—правымі і „левымі“ апартуністамі,—забясьпечыць посьпех правядзеньня важнейшых гаспадарча-палітычных кампаній.

Рашэньні чэрвеньскага пленуму ЦК УсеКП(б) трэба шырока папулярызаваць сярод калгасьнікаў і бядняцка-серадняцкіх мас аднаасобнікаў. Папулярызацыю рашэньняў трэба цесна ўвязваць з гаспадарчым замацаваньнем калгасаў, правільнай арганізацыяй і ўлікам працы ў калгасах і арганізацыяй далейшага прыліву ў калгасы бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

С. С—ка.

**„Партыйныя і савецкія арганізацыі павінны мабілізаваць усю сваю ўвагу з такім разьлікам, каб да веснавой сяўбы 1932 году было-б калектывізавана ня менш 75 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак БССР“.**

**(З пастановы ліпеньскага пленуму ЦК КП(б)Б).**

# Калгасы рапартуюць аб сваіх дасягненьнях

## З 7 да 112 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак калгас „Камунар“ вырас за адзін год

### РАПАРТ

**калгасу „Камунар“ Чавускага раёну, Валкавіцкага сельсавету**

Наш калгас арганізаваўся вясною мінулага году з 7-мі бядняцкіх гаспадарак. Дзякуючы ўпартай рабоце сельсавету, партыйцаў, камсамольцаў, школы па растлумачэньню працоўнаму сялянству аб перавагах буйнай калектыўнай гаспадаркі, аб выкананьні пастаўленых партыяй і ўладай задач, дзякуючы няпрымірымай жорсткай барацьбе з кулацтвам і ліквідацыяй яго як клясы на базе суцэльнай калектывізацыі,—у лютым месяцы гэтага году мы мелі вялікі прыліў, у наш калгас уступіла 23 бядняцка-серадняцкіх гаспадаркі.

З вялікім пад'ёмам калгасьнікі падрыхтаваліся да сяўбы. Абагулілі, ачысьцілі насеньне, адрамантавалі інвэнтар, забясьпечылі сябе ўгнаеньнем і машынамі.

З такой падрыхтоўкай, у пачатку сакавіка калгасьнікі арганізавана зрабілі пробны выезд і рашуча заявілі:

— Мы к другой бальшавіцкай сяўбе гатовы.

Такая баявая гатоўнасьць і вялікая бадзёрасьць калгасьнікаў яшчэ мацней ударыла па кулаках і іх прыхільніках і дала новы прыліў бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

Асабліва вялікі прыліў адбыўся ў часе Першамайскіх сьвят, калі калгасьнікі з вялікім энтузіязмам з чырвоным сьцягам, з песьнямі праклалі першую баразну і потым сумесна з школай рушыліся на дэманстрацыю. Цэлымі дзесяткамі беднякі і серадпякі аднаасобнікі запрагалі сваіх коняй у плугі і далучаліся да брыгад калгасу. З часу сьяткаваньня ўлілася 41 бядняцка-серадняцкая гаспадарка, а ўсяго налічвалася ў гэты час у калгасе 73 гаспадаркі.

К пачатку сяўбы ў калгасе было ўжо 98 гаспадарак.

Дзякуючы няспыняючайся рабоце па вярбоўцы ў калгас і перахода на зьдзельшчыну — прыліў павялічыўся ў час сяўбы.

К канцу сяўбы ўсяго ў калгасе налічвалася 112 гаспадарак.

Дзякуючы пераходу на зьдзельшчыну, сацыялістычных мэтадаў у рабоце—сацспаборніцтва і ўдарніцтва—наш калгас з посьпехам выканаў пастаўленыя перад намі партыяй і ўладай задачы. Скончылі веснавую сяўбу к 1-му чэрвеня з перавыкананьнем плянаў.



Ударная брыгада касцоў.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Аўсу па пляну было намечана | 110, | засеяна 115 | *га* |
| Ячменю | 30 | „ | 32,5 „ |
| Ільну | 60 | „ | 67 „ |
| Канопель | 6 | „ | 6 „ |
| Бульбы | 90 | „ | 90 „ |
| Кораньплодаў | 8 | „ | 12 „ |
| Пшаніцы | 5 | „ | 6 „ |
| Гароху | 8 | „ | 9 „ |
| Лубіну | — | „ | 5 „ |
| Грэчкі | 22 | „ | 37 „ |

Такія-ж паказчыкі і па астатнім культурам.

Усяго перавыканалі плян сяўбы на 20 *га*.

Па сканчэньні сяўбы калгас па-ўдарнаму падрыхтаваўся да ўборкі ўраджаю. Адрамантаван інвэнтар, машыны, збруя і г. д. Прыстасавалі і падрыхтавалі памяшканьні для складкі сена і збожжа. Усе калгасьнікі разьбіты на брыгады. Разьмеркавана плошча сенажаці па брыгадам. Усе калгасьнікі аб'явілі сябе ўдарнікамі, заключылі соцумовы паміж брыгадамі на лепшае выкананьне пляну уборачных работ.

Зараз па-ўдарнаму ідзе ўборка сена і канюшыны. Усе работы пераведзены на зьдзельшчыну.

Мы, калгасьнікі калгасу „Камунар", завяраем Камуністычную партыю і Савецкі ўрад, што з усімі пастаўленымі перад намі задачамі мы справімся яшчэ з большым посьпехам, чым мы справіліся ў пасеўкампанію.

**Па даручэньню ўсіх членаў калгасу „Камунар":**

**Старшыня калгасу (подпіс).**
**Член праўленьня (подпіс).**
**Сакратар (подпіс).**

# НАБЛІЖАЕМСЯ ДА СУЦЭЛЬНАЙ

Пра калгас „Шлях Леніна", Чырвонаслабодзкага раёну ведаюць усе беднякі і серадняки ваколічных вёсак. Ведаюць ўсіх ударнікаў калгасу, якія так упарта змагаліся два гады таму з кулацтвам за арганізацыю калгасу.

### Аб чым гавораць лічбы

З 12 гаспадарак, якія ўвайшлі ў калгас пры яго арганізацыі—зараз налічваецца 97 гаспадарак на плошчы 890 *га*.

Калгас „Шлях Леніна" мае жывёлагадоўчы ўхіл. Ёсьць коняй рабочых—90, маладняка—10, кароў дойных—56. У першую бальшавіцкую вясну калгас засеяў яравы клін усяго толькі ў 8 *га*, а сёлета яравы клін пашырыўся да 250 *га*. Калгас пасеяў: аўсу—40 *га*, ячменю—12 *га*, лёну і канапель—11 *га*, вікі—36 *га*, канюшыны—50 *га*, гароху—6 *га*, бульбы—65 *га*, буракоў—9 *га*, лубіну—26 *га*, кукурузы і сланэчніку—5 *га*, сэрадэлі—5 *га*, грэчкі і проса—2 *га*, табаку—2 *га*, агародных культур—5 *га*.

Калгас раней тэрміну скончыў сяўбу з перавыкананьнем пляну і дапамог у сяўбе калгасам „Анзор" і „Новы шлях".

Калгас добра падрыхтаваўся да ўборкі ўраджаю. Усе ўборачныя машыны адрамантаваны, складзен дасканалы плян

уборачных работ. Намечана правесьці два ўкосы на заліўных лугох.

Уся работа пераведзена на зьдзельшчыну. Шырока разгорнута сацспаборніцтва сярод брыгад і асобных калгасьнікаў.

### Да новых перамог

Зараз Жываглодаўскі сельсавет калектывізаваны на 70 проц. Набліжаемся да суцэльнай калектывізацыі.

Ударнікі другой бальшавіцкай вясны, якія прэміраваны за лепшую работу ў часе сяўбы, як-та: **Гарнец**—арганізатар калгасу, **Ганчар Янка** — камсамолец, **Ганчар Язэп**—сакратар камсамольскай ячэйкі і **Ганчарык**—зьяўляюцца ўдарнікамі і ў падрыхтоўцы да ўборкі ўраджаю, актыўна праводзяць работу па арганізацыі новага прыліву ў калгас.

Брыгада часопісі „Шляхі калектывізацыі“: **Алесь Курловіч і Сьцяпан Мялешка.**

# На 400 га перавыканан плян па тэхкультурам

*(Полацкі раён)*

Дзякуючы ўдарным тэмпам у рабоце па правядзеньню веснавой сяўбы, калгасы Полацкага раёну параможна скончылі сяўбу, выканаўшы ў асноўным намечаныя пляны. Асабліва вялікія дасягненьні маюць калектыўныя гаспадаркі па пасеву тэхнічных культур. Па пляну было намечана пасеяць 450 *га* ільну і канапель, сустрэчны плян высунуты на 200 *га* больш плянавага заданьня. Але і сустрэчны перавыкананы на 200 *га*. Такім чынам калгасы Полаччыны засеялі ільном і канаплёй 850 *га*.

Значных посьпехаў Полацкі раён дасягнуў і ў галіне калектывізацыі. Плян прадугледжваў калектывізаваць у веснавую сяўбу каля 37 проц. бядняцкасераднядкіх гаспадарак раёну, а калектывізавана к канцу чэрвеня месяца звыш 45 проц. На аснове посьпехаў калектыўных гаспадарак у справе выкананьня плянаў веснавой сяўбы, прыліў бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у калгасе з кожным днём расьце.

Полацкі раён узяў быў на грамадзкі буксір Сіроцінскі раён.

Калгасы Полаччыны вылучылі 22 лепшых калгасьнікаў-ударнікаў у дапамогу калгасу Сіроцінскага раёну па арганізацыі калгаснага прыліву.

Аднак па асобным культурам маецца недавыкананьне плянаў сяўбы. Напрыклад, плян па сяўбе гародніны ў асноўным хоць і выканананы, але асобных культур (цыбуля, гуркі і інш.) пасеяна значна менш, як было намечана. Шмат якія калгасы проста ўхіляліся ад пасеву гародніны, як ад працаёмкіх культур.

Плян пасеву сіласных культур выкананы ўсяго толькі на 85 проц.

Скончыўшы веснавую сяўбу, калгасы Полаччыны адразу-ж пераключыліся на падрыхтоўку да ўборкі ўраджаю. У пачатку чэрвеня праведзена нарада старшынь калгасаў, на якой дасканала прапрацованы пляны ўборачных работ па калгасах. Пляны даведзены да кожнага калгасьніка.

Праведзены ў раёне трохдзенныя курсы рахункаводаў і брыгадзіраў па пытаньню арганізацыі працы ў калгасе ў час уборкі ўраджаю. Акрамя гэтага, па сельсаветах праведзены куставыя нарады актыву калгасаў, на якіх галоўным чынам прапрацованы пытаньні, зьвязаныя з правядзеньнем уборкі ўраджаю.

Пытаньне праполкі і ўборкі ўраджаю абгаворана на раённай нарадзе калгасьніц і зьлёце калгасьнікаў-ударнікаў.

**П. С.**

# ПЕРАМОЖНА ІДЗЕМ НАПЕРАД

*(Полацкі раён).*

У пачатку красавіка месяца гэтага году адбыўся сход беднаты і серадпякоў вёскі Дзягодкі. Запрошаны на сход старшыня камуны „Чырвоны артылерыст“ тав. Феданенка гаварыў прысутным:

— Жыць пастарому нельга!.. Трэба скасаваць старое жыцьцё. Мы вось арганізаваліся і супольна працуем, ня церпім недахваткаў. Так што і вам, таварышы, раю арганізавацца і супольнымі сіламі будаваць лепшае жыцьцё.

Сход адразу зашумеў, захваляваўся. З усіх куткоў даносіліся галасы сялян-аднаасобнікаў.

— Правільна гаворыш, таварыш!

— Досыць ужо прасіць вясною хлеба ў заможнікаў! Трэба арганізавацца і нам!..

Але разам з гэтым пачулася некалькі галасоў супроць арганізацыі калгасу:

— Ня трэба бунтаваць сялянскае жыцьцё!.. Будзем жыць, як жылі дагэтуль.

Тады сход яшчэ больш забурліў. Дзесяткі галасоў абарвалі кулацкіх падпевал і кулакоў.

— Вам добра жыць маючы такія гаспадаркі! Эксплёатаваць беднату... Ня будзе па-вашаму!

— Правільна, ня будзе!

— У калгас трэба!

— І я за гэта, досыць цягнуць...

І бедната з серадпякамі перамаглі. На гэтым-жа сходзе арганізавалі калгас „Баявік“. Калгасьнікі пры дапамозе камуны „Чырвоны артылерыст“ абагулілі рабочую жывёлу, насеньне, землеробскі інвэнтар і ўдарна пачалі рыхтавацца да сяўбы.

Цяжка было распачынаць супольнае жыцьцё. Кулакі на кожным кроку імкнуліся перашкодзіць у працы маладой калектыўнай гаспадарцы. Але арганізаваная бедната і серадпякі ўпарта працавалі на калектыўных палетках.

Калгас „Баявік“ адразу перавёў усе віды работ на зьдзельшчыну. І толькі дзякуючы пераходу на зьдзельшчыну і шырока разгорнутым сацыялістычным мэтадам працы—сацспаборніцтву і ўдарніцтву, — калгас з посьпехам скончыў веснавую сяўбу, выканаўшы поўнасьцю намечаныя пляны, а па тэхнічных культурах плян выкананы на 150 проц.

Па скончэньні сяўбы калгас „Баявік“ адразу-ж пераключыўся на падрыхтоўку да ўборкі ўраджаю. Калгасьнікі заяўляюць:

— Поўнасьцю і ў тэрмін убярэм ураджай!

— Не пакінем на полі ніводнага снапа збожжа і ніводнай пасмы сена.

Селькор

**Мікола Яроменка.**



Нарада брыгадзіраў па ўліку працы. (Койданаўскі раён).

# Уборку ўраджаю правядзем па-ўдарнаму

*(Рагачоўскі раён)*

Калгас „Перaward" скончыў сяўбу з перавыкананьнем намечаных плянаў. Калгас засеяў 48 *га* бульбы, альбо 112 проц. выкананьня пляну, 28 *га* аўса—140 проц. Выкананьне ільну: па пляну меркавалася засеяць 6 *га*, а засеяна 10 *га*, канаплі—1 *га*, засеяна 2 *га*.

Сяўба праходзіла на аснове зьдзельшчыны па ўсіх відах работ. Сяўба скончана на 5 дзён раней вызначанага тэрміну.

Брыгада пасеўшчыкаў бульбы выпрацоўвала на кожнага па 1,8 працадні.

Пасьпяховае правядзеньне сяўбы дасягнута дзякуючы шырокаму разгортваньню сацспаборніцтва і ўдарніцтва. Калгасьнікі Шчарбакоў Янка, Скірмант Андрэй, Ганчарова Ганна, Прыходзька Пятро, Скірмант Арына сапраўды праявілі сябе лепшымі ўдарнікамі. Але разам з гэтым былі і такія, якія цягнуліся ў хвасьце, ня выходзілі ў дні рэлігійных сьвят на работу (Шчарбакоў Ермалай, Сіткова Эмілія, Шчарбакова Мар'я).

Цяпер калгас распачаў падрыхтоўку да ўборачнай кампаніі, рамантуюцца сельскагаспадарчыя машыны — жнейкі, касілкі, малатарні, складзен плян уборачнай кампаніі, у якім падрабязна адзначаны ўсе работы, колькі дзён, на якую работу, нормы выпрацоўкі па ўборцы ўраджаю.



Ударніца-даярка камуны „Чырвоны Артылерыст" Пілюшэнка Аксеньня (Полацкі раён).

У выніку пасьпяховага сканчэньня сяўбы маецца прыліў у калгас „Пераможац".

Брыгада часопісі „Шляхі Калектывізацыі" **Я. Савіцкі. Я. Кулакоў.**



**Брыгада касцоў у час перапынку.**

# БРЫГАДА, ЗЬДЗЕЛЬШЧЫНА,—УЛІК ПРАЦЫ ПА КОЛЬКАС
# РАБОТЫ, СОЦСПАБОРНІЦТВА І ЎДАРНІЦТВА,—АДЗІН

# БРЫГАДЗІР—АРГАНІЗАТАР

**За бальшавіцкія прыклады арганізацыі п**
**за сацыялістычныя мэтады ў рабоце (**
**якасныя паказчыкі работы,—Калгасцэнтр**
**ударнікаў ільна**



**Рацькоў брыгадзір-ударнік калгас „Пабеда“ Горацкага раёну**



**Андрэева Параска, брыгадзір-ударніца, калгас імя Валадарскага, Краснапольскага раёну.**

1) **Андрэенка** Параска (колгас імя Валадарскага, Ч
нікам і бібліатэкай, 2) **Вясёлкін** Тодар (калгас імя Ка
талаў Кандрат (Горацкага раёну)—насьценным гадзінь
нар Чавускага раёну)—насьцен. гадзіньнікам і бібліа
доцкага раёну)—насьценным гадзіньнікам і бібліатэкай,
кага раёну)—насьценным гадзіньнікам і бібліатэкай,
раёну) — насьценным гадзіньнікам і бібліатэкай, 8) **Ка**
насьценным гадзіньнікам і бібліатэкай, 9) **Сяргеенак**
ёну)—бібліатэкай, 10) **Тарасенка** Максім (калгас „Чыр
нікам і бібліатэкай, 11) **Радзькоў** Кастусь (калгас „Па
(калгас імя газэты „Калгасьнік Беларусі“ Круглянскаг
(калгас „Чырвоная Ніва“ Ветрынскі раён)—насьценны
раёну)—бібліатэкай, 15) **Гаравец** Уладзімер (калгас імя
Мікола (камуна імя Сталіна, Боркавіцкага раёну)—нас
Любаньскага раёну)—насьценным гадзіньнікам, 18)
раёну) — насьценным гадзіньнікам, 19) **Фёдарава**
бібліатэкай, 20) **Шульга** Фёдар (калгас Ільіч, Бор
(калгас Новы Альбрэхаў, Расонскага раёну)—бібліа
Сененскага раёну)—бібліатэкай, 23) **Асіпенка** Апанас
ным гадзіньнікам і бібліатэкай, 24) **Майсееў** Апанас (
25) **Урбановіч** Аўгусьцін (саўгас імя Дзяржынска
і бібліатэкай, 26) **Мартыноўскі** Базыль (калгас Расьсвет, Ляднянскага раёну) — бібліатэкай, 27) **Масьленкаў** Андрэй (калгас Чырвоны Сьцяг, Ляднянскага раёну) — насьценным гадзіньнікам і бібліатэкай, 28) **Осіпоў** Іван (калгас імя Чырвонай Арміі, Сіроцінскага раёну) — насьценным гадзіньнікам і бібліатэкай, 29) **Багадзяжа** Міна (калгас Іскра, Халопеніцкага раёну) — насьценным гадзіньнікам і бібліатэкай, 30) **Дзьмітрыеў** Даніла (калгас 13-ты Кастрычнік, Сураж-



**Брыгада брыгадзіраў-ударнікаў**

# ...ЦІ І ЯКАСЬЦІ ВЫКОНВАЕМАЙ КОЖНЫМ КАЛГАСЬНІКАМ ...ВЕРНЫ ШЛЯХ АРГАНІЗАЦЫІ ПРАЦЫ Ў КАЛГАСАХ

# ...КАЛГАСНАЙ ВЫТВОРЧАСЬЦІ

**...ацы ў час правядзеньня веснавой сяўбы, ...сспаборніцтва, ударніцтва), за высокія ...БССР прэміраваў наступных брыгадзіраў- ...одных калгасаў:**

...рвонапольскі раён) прэміравана насьценным гадзінь-
...ніна, Чырвонапольскі раён) — бібліатэкай, 3) **Крыш-**
...ікам і бібліатэкай, 4) **Гусеў** Віктар (калгас Юны Каму-
...экай, 5) **Сьцяпанаў** Серафім (камуна імя Сталіна, Гара-
...6) **Клопаў** Ільля (калгас „Чырвоны Кастрычнік“ Вушац-
... **Шынкевіч** Паланьня (калгас „Пабеда“ Чашніцкага
...алава Адэля (калгас „Перамога“ Шклоўскага раёну) —
...ціхон (калгас „Шлях да Сацыялізму“ Межанскага ра-
...оная Зорка“ Межанскага раёну)—насьценным гадзінь-
...еда“ Горацкага раёну)—бібліатэкай, 12) **Зайцаў** Янка
...раёну)—гадзіньнікам і бібліатэкай, 13) **Краско** Пятро
... гадзіньнікам, 14) **Каланда** Сямён (калгасу Ветрынскага
...Сталіна Багушэўскага раёну)—бібліатэкай, 16) **Медзель**
...ценным гадзіньнікам, 17) **Благінаў** Янка (камуна БВА,
...цько Аляксей (калгас імя Карла Маркса, Асьвейскага
...рузына (калгас імя Леніна, Гарадоцкага раёну) —
...авіцкага раёну) — бібліатэкай, 21) **Сьвярдлоў** Барыс
...кай, 22) **Торган** Міхась (калгас Чырвоны Пуцілавец,
...калгас Першае Мая, Мсьціслаўскага раёну)—насьцен-
...калгас Верны Шлях, Дрысенскага раёну)—бібліатэкай,
...а, Дрысенскага раёну) — насьценным гадзіньнікам
...скага раёну) — бібліатэкай, 31) **Бялоў** Ільля калгас Перамога, Расонскага раёну) — насьценным гадзіньнікам і бібліатэкай, 32) **Новікаў** (калгас Новы Шлях, Шклоўскага раёну)—бібліатэкай, 33) **Сігай** Мікола (калгас 1-е жніўня, Любаньскага раёну) — бібліатэкай, 34) **Ляскевіч** Рыгор (калгас імя Варашылава, Мсьціслаўскага раёну) — бібліатэкай, 35) **Крумін** Андрэй (калгас імя Апанскага, Межынскага раёну) прэміраван бібліатэкай.



...прэміраваных на міжраён. зьлёце.



Фёдарава Прузына, брыгадзір-ударніца, калгас імя Леніна, Гарадоцкага раёну.



Бялоў Ільля, брыгадзір-ударнік, калгас „Перамога“, Расонскі раён.

# ЛІПЕНЬ—УДАРНЫ МЕСЯЦ ПА РЭАЛІЗАЦЫІ ПАЗЫКІ НА ВЁСЦЫ

Поўнасьцю рэалізаваць да 1 жніўня вызначаную для вёскі суму пазыкі імя трэцяга рашаючага.

## Што павінен ведаць калгасьнік аб пазыцы

Пазыка трэцяга рашаючага году пяцігодкі—другі выпуск пазыкі „Пяцігодка ў чатыры гады“ выпускаецца на суму 1 мільярд 600 мільёнаў рублёў.

Пазыка выпускаецца тэрмінам на 10 год—з 1 сьнежня 1931 г. па 1 сьнежня 1942 г. Аблігацыі пазыкі выпускаюцца двух відаў: працэнтныя (бязвыйгрышныя) і бяспроцантныя-бяспройгрышныя (кожная аблігацыя абавязкова выйгрывае).

Па процантных аблігацыях даход выплачваецца па купонах—5 руб. у год з цэлай аблігацыі ў 50 руб., пачынаючы з 1 сьнежня 1932 г.

Найменшы выйгрыш, які можа пасьці на аблігацыю бяспройгрышнага выпуску—20 руб. і найбольшы—500 руб.

Кожны можа падпісвацца на той выпуск (процантны або бяспроцантна-бяспройгрышны), на якія ён хоча.

Пазыка рэалізуецца на строга добраахвотных началах.

Кулацкім гаспадаркам павінны быць дадзены цьвёрдыя заданьні па рэалізацыі пазыкі. Гэтыя заданьні даюцца сельскай камісіяй садзейнічаньня, якая абгаварвае іх сумесна з калгасьнікамі і актывам беднякоў.

Калгасьнікі набываюць пазыку ў парадку калектыўнай падпіскі і карыстаюцца растэрміноўкай плацяжу на тэрмін да 1 сакавіка 1932 г.

Падпіска праводзіцца шляхам апросу кожнага калгасьніка. Прымаецца падпіска, як на агульным сходзе, так і пасьля сходу пры абходзе двароў калгасьнікаў. Для абходу вылучаюцца члены камсода, грамадзкія інструктары і калгасьнікі-актывісты.

Кожны калгасьнік, падпісаўшыся на пазыку, сам уплачвае ў тэрмін чарговы ўзнос падпіскі.

Бяспроцантна-бяспройгрышныя аблігацыі замацоўваюцца за падпісчыкам пасьля ўплаты першага ўзносу. На рукі аблігацыі выдаецца пасьля таго, як падпісчык аплоціць усю суму сваёй падпіскі.

Калі згубіў замацавальныя талёны, дык можаш праз сельсавет атрымаць опісь замацаваных за табою аблігацый і гэтым самым захаваць права на выйгрыш.

Замацаваньне аблігацый процантнага выпуску выдаецца на рукі падпісчыку пасьля таго, як ён поўнасьцю аплоціць сваю падпіску.

Тыражы выйгрышаў па бяспройгрышнаму выпуску будуць праводзіцца пачынаючы з мая 1932 году, 10 чысла кожнага месяцу.

Тры першых тыражы будуць праведзены да 1 мая 1932 году.

Усе даходы ад пазыкі—процанты і выйгрышы—вызваляюцца ад падаткаў і збораў.

Выйгрышы, незалежна ад іх разьмераў выплачваюцца налічнымі грашмі.

# Рэалізацыя пазыкі выклікала новы калгасны прыліў

Па калгасах і аднаасобным сэктару Горацкага раёну па ўдарнаму разгорнута праца па рэалізацыі пазыкі імя трэцяга рашаючага году пяцігодкі.

Пры калгассаюзе створана камісія садзейнічаньня, якая вядзе штодзенную работу і апэрацыйнае кіраўніцтва па распаўсюджваньню пазыкі трэцяга рашаючага году пяцігодкі.

Кантрольныя лічбы, якія вызначаны па Горацкаму раёну, складаюць 380 тысяч рублёў. Дадзены канкрэтныя лічбы для кожнага калгасу і вёскі паасобна з тым разьлікам, каб ахапіць кожнага працаздольнага калгасьніка ня менш, як на трохтыднёвы прыбытак і бядняцка-серадняцкіх мас аднаасобнікаў.

Распаўсюджваньне пазыкі праводзіцца пры шырокім разгортваньні сацспаборніцтва паміж калгасамі і калгасьнікамі. З саміх калгасьнікаў вылучаны групы вярбоўшчыкаў па рэалізацыі пазыкі сярод бядняцка-серадняцкіх мас аднаасобнікаў.

Калгас „Шлях да сацыялізму" разгарнуў шырокую масавую работу сярод калгасьнікаў, у выніку чаго падпіскай ахоплены на 100 процантаў усе працаздольныя калгасьнікі. Кожны калгасьнік падпісаўся на месячны прыбытак.

Праведзена датэрміновая падпіска і сабрана грошай на суму 303 руб., якія ўжо аформлены і здадзены ў Дзяржбанк.

Дзякуючы вялікім посьпехам па рэалізацыі пазыкі трэцяга рашаючага году пяцігодкі па калгасу „Новае жыцьцё", выклікан новы магутны прыліў у калгасы бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Замест 30 гаспадарак зараз у калгасе налічваецца 80.

Калгасы „Шлях да сацыялізму" і „Новае жыцьцё" ідуць у першых радох па рэалізацыі пазыкі і разгортваньні масавага прыліву ў калгасы.

**Калгасьнік Р. Н.**



Падпіска на пазыку імя 3-га рашаючага ў колгасе „Новая Лядца".

# Перавыканалі „сустрэчны“

*(Рагачоўскі раён)*

Рэалізацыя пазыкі трэцяга рашаючага году пяцігодкі па Гадзілаўскаму сельсавету ідзе пасьпяхова як па калгасах, так і аднаасобных бядняцка-серадняцкіх гаспадарках. Выпуск новай пазыкі працоўныя сустрэлі з вялікім энтузіязмам.

Вось чаму сельсавет, атрымаўшы кантрольную лічбу ў 16 тысяч 595 руб.— высунуў свой сустрэчны плян у 20 тысяч 495 руб. Ва ўсіх вёсках і калгасах праведзены ўнечарговыя сходы, на якіх калгасьнікі адразу падпісваліся на пазыку.

Калгасьнікі калгасу „Пераможца“ падпісаліся на месячны даход кожнага калгасьніка. Калгасьнікі „13 гадавіны Кастрычніка“ падпісаліся на 400 руб., аднаасобнікі вёскі Гадзілавічы падпісаліся на 450 руб.

Усяго па сельсавету рэалізавана пазыкі на суму 7 тысяч рублёў. Рэалізацыя пазыкі адбываецца на аснове сацспаборніцтва.

Брыгада часопісу
„Шляхі Калектывізацыі“
**Я. Савіцкі і Шчарбакоў**



Падпіска на пазыку імя трэцяга рашаючага году пяцігодкі ў калгасе „Новы шлях“ (Лагойскі раён).

# Стварэньне насенных і страхавых фондаў—адна з баявых задач уборачнай кампаніі

Уборачная кампанія зьяўляецца галоўным гаспадарчым момантам, які дае ня толькі вынікі працы пасеву і вызначае пэрспэктывы гаспадараньня ў зімовы час, але і вызначае пэрспэктыву далейшай працы гаспадаркі і галоўнае—вызначае ў асноўным на колькі сапраўды забясьпечана гаспадарка насеньнем для пасеву наступнага году.

Ступень забясьпечаньня насеньнем траў, лубіну і гародніны веснавой сяўбы гэтата году—даюць пэўны ўрок, што ад ступені мабілізацыі насенных рэсурсаў папярэдняга году залежыць сапраўднае забясьпечаньне насеньнем пасеўных плошчаў наступнага году. Патрэбна раз на заўсёды асудзіць і выкарчаваць шкодныя настроі і гутаркі аб тым, што насеньне для засеву адкульсьці прыбудзе ў гаспадарку, што насеньне другарадная справа і з мабілізацыяй насенных рэсурсаў сьпяшацца непатрэбна.

Арганізацыя насенных плошчаў траў з травастоя, мабілізацыя насенных рэсурсаў, арганізацыя належнай прыборкі, абмалоту, ачысткі, належнага захаваньня і гэтым самым падрыхтоўка насеньня для наступнай сяўбы—зьяўляецца аднэй з асноўных задач саўгасаў і калгасаў.

Трэба, каб саўгасы і калгасы зараз-жа праверылі і падлічылі колькі, іх гаспадаркі атрымаюць у гэтым годзе насеньня і наколькі поўна гэтыя рэсурсы задаволяць патрэбы пасеву наступнага году. Таксама трэба праверыць, ці забясьпечан збор насеньня траў, лубіну, гародніны, кораньплодаў для здачы дзяржаве з мэтай забясьпечаньня іншых гаспадарак, якія па кліматычных умовах ня могуць здабыць у сябе насеньня асобных расьлін (напрыклад, лубіну — паўночныя раёны БССР).

Патрэбна павесьці барацьбу за стварэньне насенных фондаў і максымальна большы выхад і збор ураджаю насеньня, асабліва траў, кораньплодаў, гародніны.

Апрача насенных фондаў, для забясьпечаньня ўноў засяваемых плошчаў, — асабліва важнае значэньне мае стварэньне страхавых насенных фондаў. Мэтавае прызначэньне страхавых насенных фондаў зьяўляецца — забясьпечаньне гаспадарак насеньнем на выпадак перасеву (з прычыны вымаканьня, градабіцьця і г. д.).

Па арыентыровачных даных райземаддзелаў загінуўшая і патрабуючая перасеву плошча зімовых расьлін складае ўвесну 1931 году 3 проц. зімовага кліну БССР. Гэта яшчэ раз сьцьвярджае, якое значэньне мае стварэньне страхавых насенных фондаў.

| На які час паказана выкананьне | Выканана | | Плян у процантах | |
|---|---|---|---|---|
| | У калгасах (у адпаведнасьці з фактычным проц. калектывізацыі) | | | |
| | Насенных фондаў | Страхавых фондаў | Фонды камітэтаў сялянскай узаемадапамогі | Страхавых фондаў аднаасобнікаў |
| 20-I 1931 г. . . . | 15,4 | 15,4 | 5,4 | — |
| 10-II 1931 г. . . . | 16,7 | 16,7 | 9,2 | — |
| 1-III 1931 г. . . . | 18,1 | 18,1 | 18,1 | — |
| 20-III 1931 г. . . . | 49,8 | 34,8 | 24,5 | — |
| 1-V 1931 г. . . . | 57,3 | 36,4 | 31,6 | 16,2 |

Існаваўшая недаацэнка справы стварэньня страхавых насенных фондаў у час падрыхтоўкі да вясны гэтага году павінна быць зьнішчана. Ганебны рух выкананьня плянавых заданьняў, што можна ўбачыць з пададзенай вышэй табліцы,—павінен быць заменены поўным выкананьнем заданьняў.

Пастанова ўраду аб стварэньні страхавых насенных фондаў і давядзеньні іх штогодна, пачынаючы з 1931 году роўнымі часткамі да 30 проц. усяго патрэбнага насеньня для сяўбы 1933 г. па паасобных культурах (жыта, пшаніцы, аўса, ячменю, грэчкі, лёну і бобовых)—павінна быць цалкам выканана.

Адным з заданьняў пастановы ўраду зьяўляецца арганізацыя страхавых насенных фондаў зімовых расьлін да асеньняй сяўбы 1931 году — арганізаваць у калгасах усіх насенных фондаў 1 мільён 229 тысяч 771 з паловаю цэнтнеры, з іх насенных 1 мільён 117 тыс. 911 з паловаю цэнтнераў і страхавых 10 тысяч 780 цэнтнераў. У камітэтах узаемадапамогі 17 тысяч 900 цэнтнераў і страхфондаў у аднаасобнікаў 129 тыс. 71 цэнтнер.

Паказаныя лічбы зьяўляюцца баявым заданьнем і патрабуюць поўнай аддадасьці ў іх выкананьні.

Неабходна, каб пры мабілізацыі сіл і сродкаў па правядзеньні ўборачнай і асеньняй пасеўнай кампаній цалкам была забясьпечана работа па стварэньні насенных і страхавых фондаў для вясны 1932 году.

М. Бялоў.



# У паход за сілос

## Што можна і неабходна сіласаваць акрамя сланэчніку і кукурузы

У некаторых саўгасах і калгасах адносяцца да сіласаваньня такіх расьлін, як канюшына, віка, гарох, сэрадэля, бабы і інш. не ахвотна таму, што бабовыя расьліны звычайна трэба сіласаваць з расьлінамі, якія ўтрымоўваюць значную колькасьць цукру, напрыклад, сланэчнік, кукуруза, авёс. Але посьпех сіласаваньня бабовых расьлін залежыць ня толькі ад таго, што бялок дрэнна сіласуецца наогул, а ад таго, што, пры сіласаваньні бабовых расьлін патрэбна ўжываць халодны спосаб сіласаваньня.

У чым перавага халоднага спосабу сіласаваньня перад гарачым. Пры халодным сіласаваньні малочна-кіслае бражэньне, ці ператварэньне бактэрыямі цукру сіласуемага корму ў малочную кіслату, праходзіць пры тэмпэратуры ня вышэй 20—25. Такім чынам сіласуемая маса ўвесь час, пакуль у ёй праходзіць малочна-кіслае бражэньне, застаецца халоднаю, а гэта дае мажлівасьць атрымаць меншы процант страты спажыўных, у прыватнасьці бялковых матэрый, чым пры гарачым спосабе сіласаваньня.

Халодны спосаб сіласаваньня не залежыць ад пагоды; маючаяся ў масе вільгаць не адыгрывае значнай ролі і ў такім выпадку расьліны ня прыходзіцца абвяліваць у полі. Сілос, атрыманы пры слабым саманаграваньні, лепш захоўвае свой папярэдні выгляд зялёнага колеру і прыемны пах. Прыгатаваньне сіласаванага корму па халоднаму спосабу вельмі простае.

Парэзаная зялёная маса разьмерам 1—2 сант. напаўняецца ў вежу, яму ці траншэю і ўвесь час загрузкі добра ўтрамбоўваецца з тым, каб выціснуць усё паветра з корму. Бязумоўна, што ў сіласе на працягу аднаго-двух дзён не-



Закладка сілоснай ямы у калгасе „Чырвоная Палаччына“ (Вушацкі раён).

каторая колькасьць паветра прысутнічае, расьліны яшчэ жывуць, але праз некаторы час, скарыстаўшы ўсё паветра— уміраюць. Расьліны ў адсутнасьці паветра задыхаюцца і на працягу прыблізна каля 2-х дзён ператвараюцца ў расьлінныя трупы, пачынаюць „раскладацца“. Цукер, які ўтрымоўваецца ў няжывых клетках расьліны, робіцца даступным малочна-кіслым бактэрыям, якія яго ператвараюць у малочную кіслату. Тэмпэратурныя ўмовы халоднага сіласаваньня

зусім выключаюць усякую мажлівасьць работы масьляна-кіслых бактэрый (шкодных пры сіласаваньні) паколькі іх разьвіцьце і работа праходзіць пры больш высокай тэмпэратуры, чым 25 градусаў.

На працягу 4—6 тыдняў тэмпэратура ў сіласе падае і па меры накапленьня малочнай кіслаты каля 1,5%, усё больш і больш прыгнятаецца жызьнядзейнасьць усіх, у тым ліку і малочна-кіслых бактэрый. Пасьля ўсяго гэтага сілас напамінае сабою кансэрвную банку, у якой корм знаходзіцца бяз усякіх зьмен і



Сілосная вежа камуны „Бальшавік“.

порчы на працягу доўгага часу. Зразумелая рэч, што правільнасьць сіласаваньня залежыць і ад памяшканьня, у якім будзе загружан сілас. Галоўнае запатрабаваньне, якое неабходна прад'яўляць да сіласных установак (веж, ям і траншэй), гэта вада і паветра-непрапушчаемасьць.

Сіласаваньне бабовых расьлін і ў прыватнасьці канюшыны і інш. павінна заняць значнае месца ў справе нарыхтоўкі сакавітага корму для жывёлы саўгасаў і калгасаў. Нежнае сена бабовых, папаўшы пад дождж, страчвае значную частку спажыўнасьні ад вымываньня і акрамя гэтага пры высушваньні лісьця расьлін адламываюцца і такім чынам лепшая частка спажыўнага корму прападае. Таму сіласаваньне зьяўляецца больш пэўным мэтадам кансэрваваньня расьлін, чым высушваньне іх на сена. Малочна-кіслае бражэньне зьяўляецца самым спрыяючым фактарам сіласаваньню кармоў і атрымоўваецца пры халодным спосабе сіласаваньня.

Надзвычайна важнаю ўмоваю для сіласаваньня бабовых расьлін зьяўляецца таксама ступень іх разьвіцьця да часу ўборкі. Пры ўборцы бабовых расьлін на сілас неабходна мець на ўвазе два моманты: найбольшае ўтрыманьне спажыўных матэрый у расьлінах і сілосная сьпеласьць расьлін (ступень іх вільготнасьці). Для канюшыны момант уборкі наступае ў пачатку зацьвітаньня, калі прыблізна $^1/_3$ галовак цьвіце і расьліны маюць 18—20 проц. сухое матэры!.

Для такіх бабовых, як гарох, конскія бабы, віка, лубін і інш. сілосная сьпеласьць наступае да моманта пачатку ўтварэньня стручкоў.

Для сіласаваньня неабходна скарыстоўваць таксама батву караньплодаў і бульбы, якую магчыма касіць за 10 дзён да ўборкі ўраджаю без перашкоды росту бульбы. Прымерзлыя расьліны і галоўным чынам буракі, бульба і інш. караньплоды могуць быць з посьпехам скарыстаны шляхам сіласаваньня, між тым, як мерзлыя корняклубняплоды іншымі спосабамі захаваць нельга і вельмі часта значная частка караньплодаў і бульбы гніе, папаўшы пад замаразкі.

Вырашэньне задачы забясьпечваньня кармамі жывёлаводзтва нашых саўгасаў і калгасаў усё больш і больш упіраецца ў неабходнасьць практычнага прымяненьня масавага сіласаваньня кармоў. Плян сіласаваньня гэтага году павінен быць выкананы поўнасьцю, бо сілас за сябе агітуе, сілас сябе апраўдае ў практычным яго правядзеньні.

Партыйныя ячэйкі, камсамол і ўся савецкая грамадзкасьць раёнаў павінны завайстрыць увагу на пытаньні карма-здабываньня сацыялістычнай жывёлагадоўлі і ў прыватнасьці на пытаньні лепшага спосабу захоўваньня,

**Даніловіч.**

# Як арганізаваць працу пры сіласаваньні

Якасьць сілосу ў значнай ступені залежыць ад таго, як хутка выконваюцца ўсе пасьлядоўныя работы па падрыхтоўцы і сіласаваньню (касьба, падвозка, рэзка, утрамбоўка і інш.).

Неабходна, каб усе работы вытвараліся ў аднначасовай пасьлядоўнасьці бесьперабойна. Вось гэтая бесьперабойнасьць з яшчэ большай настойлівасьцю патрабуе ад кожнага калгасу поўнай падрыхтаванасьці.

У чым-жа заключаецца падрыхтоўка калгасу да сіласаваньня ў справе арганізацыі працы?

### Праграма работ—аснова падрыхтоўкі

Па-першае, неабходна скласьці праграму работ па сіласаваньню. У пляне неабходна падлічыць: 1) колькасьць сіласнай масы, якая патрабуецца для гаспадаркі, выходзячы з разьліку, што кожнай карове на стойлавы пэрыод патрабуецца 3 тоны сілосу, а калі ў калгасе ёсьць, напрыклад, 150 кароў, дык, перамножыўшы 150 на 3, атрымаем 450 тон сілосных кармоў, якія калгас павінен будзе мець для свайго стада ў гэтым годзе, 2) колькасьць рабочай, цягавай сілы, машын і прылад для правядзеньня работ па падрыхтоўцы 450 тон сілосу, 3) якія сілосныя культуры і адкіды будуць сіласавацца, 4) аб'ём работы (плошчы касьбы і інш.) і месца работы, і 5) тэрмін сіласаваньня кожнай культуры (гл. № 12 „Шляхі калектывізацыі“).

Неабходна падрыхтаваць сілосныя ямы, траншэі, вежы. Калі ёсьць мінулагоднія—вычысьціць і праветрыць, падрамантаваць і г. д., а калі іх яшчэ няма, то абавязкова ва ўдарным парадку зараз-жа зрабіць.

### Толькі зьдзельшчына сапраўды ўзьнімае вытворчасьць працы

Усе работы па сіласаваньні павінны быць пераведзены на зьдзельшчыну, як найлепшы мэтад падвышэньня вытворчасьці працы і даходнасьці гаспадаркі.

Сутнасьць і перавагі зьдзельнай формы арганізацый працы перад усімі другімі (падзённая) заключаецца ў тым, што яна разьлічана на зацікаўленасьць кожнага асобнага калгасьніка зрабіць больш і лепш, бо ён ведае, што праца яго будзе аплачваецца не па прапрацаваным часе, а па выпрацаваных колькасных і якасных паказчыках сваей работы.

На сёнешні дзень ёсьць факты, калі гэта сутнасьць зьдзельшчыны калгасамі скажаецца (калгас Карла Маркса, Лагойскага раёну, імя Валадарскага, „Новы шлях“, Плешчаніцкага раёну). Зьдзельшчына праводзіцца толькі фармальна, а на самай справе існуе ўраўнілаўка. Гэтым фактам скажэньня сутнасьці зьдзельшчыны, фармальнага падыходу да яе трэба пакласьці канец. Трэба мацней і рашучай біць па тых асобах, якія імкнуцца працягнуць у калгас ураўнілаўку, падзёншчыну, бо яны на справе дапамагаюць клясаваму ворагу кулаку весьці барацьбу з калгасамі.

### Нормы выпрацоўкі—складаны элемэнт зьдзельшчыны

Для пасьпяховага правядзеньня зьдзельшчыны неабходна выпрацаваць нормы выпрацоўкі і расцаніць гэткія ў працаднёх. Нормы выпрацоўкі ні ў якім выпадку не павінны быць нізкімі, лёгка перавыконваемымі ў некалькі разоў кожным калгасьнікам. Нізкія нормы зьніжаюць расцэнку працадня, што ў сваю чаргу перадае зброю ў рукі клясавага ворага ў жорсткай клясавай барацьбе з калгасамі. Пры складаньні норм выпрацоўкі неабходна раўняцца на вытворчасьць ударных брыгад і лепшых ударнікаў, бо гэта забясьпечыць калгасу сапраўднае павышэньне вытворчасьці калектыўнай працы.

### Брыгада—вытворчая адзінка калгасу

Для калектыўнай пасьпяховасьці і плянавасьці ў рабоце па сіласаваньні, неабходна стварыць камбінаваную брыгаду, разьмер якой будзе вызначацца аб'ёмам работы і тэрмінам яе выкананьня.

Як правіла брыгада не павінна быць грамоздкай, але павінна быць арганізаванаю, спрацаванаю рабочай ячэйкай калгасу.

Вопыт ясны паказаў, што такая брыгада лепш працуе, у такой брыгадзе вышэй вытворчасьць працы, брыгадзіру лягчэй кіраваць, лепш улічваць колькасьць і якасьць кожнага асобнага калгасьніка.

Як-жа арганізаваць брыгаду па сіласаваньні?

Дапусьцім, што калгасу неабходна засіласаваць 450 сілоснай масы. У калгасе ёсьць трактарная сіласарэзка, дзённая вытворчасьць якой роўна 40 тонам і яшчэ ёсьць 1 конная саломарэзка з вытворчасьцю ў 15 тон.

З гэтых машын калгас арганізуе дзьве камбінаваныя брыгады. Першая брыгада пры трактарнай сіласарэзцы ў складзе 3-х груп: 1-я група—трактарыстаў—1; 2-я група—у сіласарэзкі—2; 3-я група—утрамбавальшчыкаў—8 чал., усяго 11 чал.

Склад другой брыгады будзе: 1-я група—у саламарэзкі—1 чал., 2-я група—трамбавальшчыкаў—5 чал., 3-я група—паганяльшчыкаў—1 чал., усяго 7 чал.

Лік асоб у кожнай групе вызначаецца дзеннай вытворчасьцю машыны і асобных работнікаў.

Дзенная вытворчасьць абодвух брыгад роўна 55 тонам, а 450 тон яны павінны будуць зрабіць у 8 дзён. На ўсе гэтыя 8 дзён праўленьне дае і нарад кожнай брыгадзе.

У брыгадзе павінна праводзіцца рашучая барацьба з абязьлічкай. Прымацаваньне інвэнтара, цягавай сілы, матар'ялаў, корму і іншых да брыгады, а ўнутры брыгады інвэнтар павінен быць прымацаваны да кожнага калгасьніка.

Так брыгадзе № 2: конь, абруя, корм прымацоўваюцца да паганяльшчыка, саломарэзка да працаўніка ў ёй, а ў брыгадзе № 1 трактар гаручыя і змазачныя матар'ялы—да трактарыста, сіласарэзка—да работнікаў у ёй. За ўсё прымацаванае да кожнага калгасьніка, апошні нясе пэрсанальную адказнасьць. Барацьба з абязьлічкай у калгасе ёсьць складанае зьвяно пытаньня арганізацыі калектыўнай працы. Калі ўжо будуць арганізаваны брыгады, кожнай з іх даецца нарад на работу з указаньнем тэрміну выкананьня яго, аб'ёму працы, які інвэнтар, якая цягавая сіла прызначана брыгадзе.

За 10—15 дзён да пачатку работы брыгады нарад ужо павінен быць на руках. Сваячасовая выдача нараду брыгадзе дае магчымасьць апошняй абгаварыць яго ў сябе на вытворчай нарадзе, дасьць магчымасьць дачасна брыгадзе ўлічыць усе магчымасьці выкананьня і перавыкананьня нараду, вызначэньне сустрэчных тэрмінаў, сканчэньне нараду, сацспаборніцтва і ўдарніцтва.

## Змаганьне за правільны ўлік

Асаблівую ўвагу неабходна зьвярнуць на вучот праробленай працы кожным калгасьнікам за кожны дзень.

Трэба памятаць, што бяз вучоту ня можа быць зьдзельшчыны, ня можа быць буйнай калектыўнай гаспадаркі. Вучот працы неабходна давесьці да кожнага паасобнага калгасьніка. Для гэтай работы трэба ў дапамогу брыгадзіру вылучыць спэцыяльнага вучотчыка, які разам з брыгадзірам штодзенна ўлічвае колькасьць і якасьць працы, укладзенай кожным асобным калгасьнікам, запісвае гэтыя паказчыкі на адваротным баку нараду (у іменным сьпісу), а потым заносіць у працоўную кніжку (глядзі артыкул „Вучот працы" „Шляхі калектывізацыі" № 12).

Зьдзельшчына, вучот у працаднёх, арганізацыя брыгад, жорсткая барацьба з абязьлічкай, шырокае ўжываньне сацыялістычных мэтадаў працы сацспаборніцтва і ўдарніцтва—забясьпечыць калгасаў сваячасовым сканчэньнем работ па сіласаваньні і перавыкананьне плянаў. Пасьпяховае і сваячасовае правядзеньне работ па сіласаваньні, забясьпечваючае сакавітымі кармамі жывёлагадоўлю ў калгасах, нанясе моцны ўдар па кулаку і яго агентуры і агентах правых і „левых" апартуністаў, якія імкнуцца перашкодзіць нашай пераможнай барацьбе за пасьпяховае вырашэньне жывёлагадоўчай праблемы. **Ф. Дзьмітрыеў.**

# Зьдзельшчына павялічыла ўдой малака на 140 літраў

Камуна „Чырвоны артылерыст“ мае жывёлагадоўчы напрамак. З часу арганізацыі (1929 год) камуны, стада буйнай рагатай жывёлы вырасла з 1 каровы да 246 кароў, з якіх 130 дойных, двухгадовых цёлак 15, паўтарагадовых—55 і сёлетніх цялят—46. Ёсьць тры бугаі-вытворнікі.

Усе работы па догляду за жывёлай пераведзены на зьдзельшчыну. Трэба сказаць, што зьдзельшчына дала надзвычайна добрыя вынікі. Калі, напрыклад, да ўвядзеньня зьдзельшчыны на адну даільшчыцу прыходзілася 12 кароў, дык зараз, пры зьдзельнай працы, тыя-ж самыя камунаркі выдойваюць 18—20 кароў.

Акрамя гэтага, з пераходам на зьдзельшчыну значна павысіўся ўдой малака. Калі раней удой кароў складаў 530 літроў малака, дык зараз з тых-жа самых кароў, пры аднолькавай пашы—складае 670 літраў. Сярод даільшчыц шырока разгорнута сацыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва.

Камуна шмат дае малака гораду. Так, за красавік і май месяц здадзена 6564 літры малака.

Камунай засеяна 20 гектараў сіласных культур і 15 гектараў кармовых буракоў. Па пляну намечана давесьці да канца гэтага году статак дойных кароў да 300 галоў.

*Мікола Яроменка.*

**АД РЭДАКЦЫІ. У шэрагу перадавых калгасаў зьдзельныя нормы выпрацоўкі дойкі устаноўлены не ад колькасьці выдайваемых кароў, а ад колькасьці надайваемага малака, што значна павялічвае ўдой. Рэдакцыя з свайго боку раіць праводзіць зьдзельшчыну па дойцы кароў ад колькасьці надайваемага малака. Разам з гэтым рэдакцыя зварачваецца да ўсіх брыгадзіраў па жывёлагадоўлі, калгасьнікаў, кіраўнікоў жывёлагадоўлі і заатэхнікаў шырока асьвятляць на старонках нашай часопісі практыку зьдзельшчыны па догляду за жывёлай і дойцы.**



Брыгада касцоў калгасу „Чырвоная Полаччына“ (Вушацкі раён).

# На барацьбу са шкоднікамі калгасных палёў

Страты, якія прыносяць кожны год шкоднікі палёў па мінімальных падліках, складаюць 2 мільярды рублёў па СССР. Толькі аднаго збожжа ад шкоднікаў прападае $^1/_{10}$ частка, недабіраецца гародніны $^1/_4$, у садзе асабліва, дзе ніякай працы па зьнішчэньню шкоднікаў не праводзіцца, прападае 50 проц., а то і ўвесь ураджай гіне.

Гэтыя лічбы гавораць аб той вялікай важнасьці правядзеньня барацьбы са шкоднікамі сельскай гаспадаркі.

Асабліва вялікую ролю ў правядзеньні барацьбы са шкоднікамі павінен адыграць „Асоавіяхім“. У гэтым годзе Асоавіяхім сумесна з Наркамземам БССР з чэрвеня па жнівень месяц праводзіць „Дэкаду барацьбы са шкоднікамі сельскай гаспадаркі“. Але да гэтага часу гэтай кампаніі яшчэ не аддадзена належнай увагі. Некаторыя раённыя арганізацыі, як Асоавіяхім, райземаддзелы, райкалгассаюзы недаацэньваюць значэньня барацьбы са шкоднікамі.

У гэтым годзе кліматычныя ўмовы вельмі спрыяюць разьвіцьцю шкоднікаў. Магчыма чакаць у гэтым годзе вялікага зьяўленьня масавых шкоднікаў (азімай соўкі, лугавога матыля і палявога смаўжа), таму зараз патрэбна падрыхтавацца для барацьбы з гэтымі шкоднікамі. Дэкада барацьбы са шкоднікамі павінна шырока ахапіць ня толькі масы калгасьнікаў, але і беднякоў і серадняковаднаасобнікаў.

А. П.

# Як весьці барацьбу з лугавым матылём

Пагроза ад лугавога матыля з кожным днём павялічваецца. Кліматычныя ўмовы як раз спрыяюць разьвіцьцю шкодніка лугавога матыля.

### Як разьвіваецца лугавы матыль

Лугавы матыль мае сьветла-карычневы колер. Зімуе ў стадыі вусьня, вясною вусень ператвараецца ў кукалку, з якой вылятае матыль. Матыль лётае 2—3 тыдні ў залежнасьці ад надвор'я. У гэты час ён адкладвае на сарняковыя расьліны яечкі—кучамі па 4—5 штук. Праз тыдзень, а то і менш з яечка выходзіць вусень, якая робіць над сабой пакроў з павуціны. У першы час вусень харчуецца сьмяцьцёвай расьлінай, а потым цэлымі масамі пераходзіць на культурныя пасевы.

Вусень мае цёмна-сераваты колер, невялікага росту. Жыве вусень 2—3 тыдні, пасьля чаго ўходзіць у зямлю, дзе і акукляецца.

### Меры барацьбы з лугавым матылём

1) З прычыны таго, што матыль кладзе свае яечкі выключна на сарняковыя расьліны, пагэтаму аднэй з задач будзе зьнішчэньне на межах сарніковых расьлін. Скошаныя сарнякі патрэбна скарміць або закапаць у зямлю. Гэта робіцца тады, калі вусень яшчэ ня вывялася з яечак.

2) Акопка пашкоджаных лугавым матылём месц ад здаровых, непашкоджаных плошчаў канавамі глыбінёю 30—40 сантымэтраў, шырынёю да 40 сантымэтраў на дне канавы праз кожныя 20—25 крокаў патрэбна выкапаць ямы глыбінёю да 30 сантымэтраў. Дно канавы патрэбна пасыпаць нягашанай вапнай. Канаву патрэбна часта аглядаць і сабраўшыхся вусеняй патрэбна зьнішчаць.

3) Апырскваньне пасеваў, на якіх маюцца вусені, рашчынай парыскай зелені з вадой. Для гэтага на 12 літраў вады патрэбна браць 12—14 грам зелені і 24—28 грам нягашанай вапны.

Магчыма рабіць апыленьне мешанінай зелені з вапнай. Для гэтага на адну частку зелені патрэбна браць 8—9 частак сьвежагашанай вапны. Пашкоджаныя вусьнямі месцы магчыма рабіць апырскваньне рашчынай хлёрыстага барыя з вадой. Для гэтага на 12 літраў вады бярэцца 400 грам хлёрыстага барыя.

Аграном Маркавец.



# Ля ручаіны

Сонца паднялося на поўдзень і быццам-бы застанавілася. Купалася залатымі косамі праменьняў у шоўкавых з рознаколернымі краскамі лугох, песьціла цёмна-сінія дываны жытнёвых палёў і яравыя ўсходы.

Сьпёка...

Гарачынь... Але прыгожа і прыемна.

Я і дзед Мацей варушым накошанае ўчора сена, што ля самай ручаіны, зграбаем у валы сухую, раскідваем не завяўшую траву. Там, дзе граблі ня чыста дастаюць паміж куп'я,—Мацей згінаецца, выбірае вільготную, зялёную траву і раскідвае яе па ўсім сене.

— Не пасьпелі от вясною зрэзаць усюды гэтую заразу, засталіся да восені... А там, дзе зрэзалі, ды абсеялі нечым, дык уга якая трава і грабіць добра...,—кажа ён як-бы апраўдваючыся, паказвае ў той бок, дзе вясёлай грамадой калгасьнікі і калгасьніцы складвалі ў копы высушанае сена.

Дружна ідзе работа! Не адчуваецца тэй млявасьці ў целе, утомы, якая звычайна была раней у такую сьпёку. Пільна сочыць кожны за тым, каб ніводнай пасмы сена не засталося на лузе.

А ручаіна гамоніць халоднай крынічнай вадой. Здаецца, вось як хоча яна зірнуць праз цяністыя кусты маліньніку і лазьняку на сонца і глыбокае блакітнае неба; зірнуць на ўвесь сьвет і адкрыць людзям таямніцы свае, якія ведае больш за ўсіх у ваколіцы дзед Мацей.

Так, Мацей усё ведае. Ён ведае, чаму гэтая ручаіна атрымала такую жудасную назву. Ды і як яму ня ведаць, калі ён старэй за ўсіх у ваколіцы, калі сам ён даваў назву ручаіне.

Дзевяць дзесяткаў Мацей пражыў, а яшчэ бадзёры духам і ў рабоце па гаспадарцы—вялікая дапамога. Слухаць ня хоча Мацей калі хто-небудзь з калгасьнікаў скажа:

— Ты ўжо, дзядуля, сядзі лепш дома, куды табе... Досыць напрацаваўся за свой век.

Дзед махне толькі рукою, ды пакрыўджана адкажа:

— Пакуль маю крыху сілы—буду работаць. Не хачу чужой працай жыць.

Вочы толькі ў дзеда памуціліся (мабыць ад старасьці, а мо' ад таго, што гора шмат бачылі, шмат сьлёз пралілі), ды і чуе ня зусім добра. Дарма, што Мацей пражыў шмат год, а прагнасьць зараз вялікую мае да жыцьця.

— От яшчэ годзікаў-ба з дзесятак пажыць,—часта кажа ён.—Гэткае жыцьцё цяпер стала добрае, ня тое, што даўней...

Асабліва прагнасьць гэтая зьяўляецца ў дзеда тады, калі ўспамінае сваё маленства, прыгон, жыцьцё пры цару, зьдзекі белапалякаў... У Мацея міжвольна коцяцца тады па хударляваму твару сьлёзы.

...Сонца льле гарачынь бяз утомы.

Кашуля так і ліпне к целу. Мацей колькі разоў выціраў рукавом лоб,

а потым спусьціўся к ручаіне і прыгоршчамі напіўся вады.

— Во, аж падужаў, як глынуў халодненькай вадзіцы,—прагаварыў ён.

Для мяне зьявілася самая падыходзячая хвіліна запытаць у дзеда аб тым, аб чым усе дні, як толькі прыехаў у гэты калгас, зьбіраўся падрабязна даведацца. І я запытаў:

— Скажы, дзядуля, чаму ў вас гэтая ручаіна носіць такую цікавую назву?

У Мацея раптам спахмурнеў твар, а белыя густыя бровы насунуліся на выцьвіўшыя вочы. Як-бы ня ўчуўшы майго запытаньня, ён моўчкі пачаў камшаць граблямі вільготнае сена між куп'я і потым растрасаць яго, высока падкідваючы ў паветры.

Я не адставаў.

— Скажы, дзядуля, чаму?



**Белапалякі забіралі ў сялян жывёлу, палілі вёскі... Беларусь зіхацела ў полымі пажараў.**

Мацей безахвотна махнуў рукой. Уздыхнуў на ўсе старэчыя грудзі.

— Ат-т... балюча ведаеш успамінаць мінулае, не чапаць лепш яго... хай яно!..

— Дык я-ж пра ручаіну толькі...

Мацей зноў уздыхнуў.

— Ох-х!.. гаварыць пра гэтую ручаіну— ня мінеш, каб не закрануць мінулага, колам яно ў зямлю хай будзе.

Ён доўга маўчаў, не хацеў адказваць на маё запытаньне, з якім я увесь час налязаў, а потым пачаў апавядаць пра жудасныя малюнкі жыцьця 1919-1920 г.

———

...Разам з чорнай восеньню прышлі белапалякі і пачалі наводзіць свае „парадкі", ад якіх заплакалі беларускія мястэчкі і вёскі.

Заработала польская дэфэнзыва ў акупаванай мясцовасьці. Пільна сачыла за кожным працоўным.

Польскае войска рабавала сялян, гвалціла маладых кабет і дзяўчат, палілі вёскі... Беларусь зіхацела ў полымі пажараў.

Здалёку яшчэ запрыкмеціўшы жаўнера,—вёска пачынала дрыжэць нібы ліст той на асіне. Кожны ведаў, што ня з добрымі думкамі зьяўляецца гэты „госьць":—не сала з кажухамі забіраць, дык фурманкі браць, альбо за дзяўчатамі на вечарынку.

І так кожны дзень.

Аднойчы позна вечарам па вуліцы вёскі Бярозаўка праімчалася некалькі коньнікаў і застанавіліся ля крайняй старэнькай хаткі з маленькімі вакенцамі, праз якія ледзь прабіваўся на вуліцу змроклы сьвет газьнічкі. Яны прывязалі да тынку коняй і падыйшлі да вакна. Адзін з іх моцна пачаў ламіцца ў дзьверы.

— Адчыняй, псякрэў!—крычаў злосны голас.

У хаце адразу пазналі знаёмы голас польскага паручніка, які ўдзень забраў

збожжа і курэй. Перапалохаліся ўсе, ня ведалі што рабіць.

Толькі пасьпеў стары адчыніць дзьверы, як у хату ўскочыла пяць узброеных жаўнераў і паручнік.

— Рэнкі дагуры вшысткі!—скамандаваў паручнік.

Старык, ведаючы крыху польскую мову, адразу падняў угору абедзьве рукі, а старуха з маладой кабетай і дзеці кінуліся ў плач з перапалоху, замітусіліся па хаце, ня выканалі суровага загаду пана паручніка.

— Рэнкі дагуры, псякрэў—бальшавічка!—злосна закрычаў паручнік.

І ўпіўся бізун у заплаканы твар кабеты. Пырснула гарачая кроў на халодную падлогу, абамлела, а старуха і дзеці загаласілі на ўсю хату.

— Г-гых, псякрэў!.. прыкідаецца мужыцкая морда...

І рука ў белай, абрызганай сьвежай



І рука ў пальчатцы зноў замахнулася і апусьціла бізун над сьпіной ляжачай кабеты...



...І тады з натоўпу вывадзілі на самы бераг ручаіны і расстрэльвалі.

крывёй пальчатцы зноў замахнулася і апусьціла бізун над сьпіной ляжачай на зямлі кабеты, расьсякла кужэльную кашулю і заставіла на белым целе крывавы адбітак бізуна.

Старык стаяў ціха ў парозе, апусьціўшы вочы ў зямлю і нават не зьвяртаў ніякай увагі на тое, што жонка і нявестка ляжалі бяз памяці. Жаўнеры пераварачвалі ўсё ў хаце і лепшыя рэчы адкладвалі ў бок.

— Кажы, стары, дзе знаходзіцца твой сын камуністы?—зьвярнуўся ўрэшце паручнік да старыка і разам з запытаньнем ударыў яго бізуном па галаве.

— Няма ў мяне, паночку, сына... Памёр!.. сіроткі от...

Старык ня мог больш нічога сказаць. У горле штосьці сьпярэчыла балючае.

— Хлусіш, стары бальшавік! Застрэлю, як сабаку...

Паручнік так моцна ўдарыў па твары старыка, што ён снопам паваліўся на зямлю, ударыўшыся галовою аб печ.

— Трэба ехаць!.. Тут няма чаго ўжо рабіць,—скамандаваў паручнік і вышаў з хаты, а за ім і жаўнеры, забраўшы з сабою розныя хатнія рэчы.

На дварэ жаўнеры доўга рагаталі, а калі ад'яжджалі—адзін з іх выбіў прыкладам карабіна вакно ў хаце.

З суседняй вёскі даносіўся крык і плач жанчын.

— Паночкі!.. за што-ж біць?.. А бажухна ты мой!..

— Застаўце хоць на малых дзетак.. з голаду памром.

— Ратуйце!.. Забіце ўжо лепш усіх каб ня мучыцца...

Разам з плачам жанчын пачуўся стрэл і вясёлы рогат жаўнераў. Потым начную цемень асьвяціла раптам полымя выбухшага пажару падпаленай вёскі. І тады яшчэ горш разьдзіралі начную цішыню крыкі і стогны жанчын.

...А на другі дзень на высокім узгорку ля ручаіны, што паясом ахінае маёнтак пана Забелы,—стаяла некалькі дзесяткаў старыкоў і жанчын з акаляючых вёсак абкружаныя коньнікамі польскіх салдат. Афіцэр прачытаў штосьці на польскай мове, а поп з ксяндзом пасьля гэтага доўга „навучалі“ сялян „пакаіцца перад богам“ і выдаць польскай уладзе камуністых і партызан. Але сяляне стаялі апусьціўшы галавы, нібы прыкутыя да зямлі, маўчалі.

І тады з натоўпу вывадзілі на самы бераг ручаіны і расстрэльвалі. Сьцякаючы крывёй, забітыя валіліся ў ручаіну, фарбавалі крынічную ваду...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

...Эх, вёскі вы, вёскі беларускія, колькі зьдзекаў перанесьлі вы ад белапольскіх катаў!

———

Мацей скончыў апавядаць і пачаў жмурыць выцьвіўшымі вачыма. Выкаціліся буйныя кроплі сьлёз у раўчакі маршчыстага твару. Потым выцершы рукавом твар—дадаў:

— Усіх-бы напэўна расстралялі, каб не атрад партызанаў. Наскочылі яны... парашкодзілі... Хаця потым Бярозаўку нашу спалілі ўсё-такі... Затое от і завём цяпер яе „Крывавая ручаіна“... Крыві людзкой шмат пацякло па ёй пры белапаляках... А старуха мая з нявесткай хутка памерлі пасьля таго, як паручнік гэтак пабіў іх.

Мацей яшчэ раз выцер вочы і зноў дадаў:

— Я от стары ўжо зусім, мала сілы, а калі чуць чаго, дык першым пайду абараняць саветы, каб ня пусьціць пана ў гэты маёнтак, дзе цяпер наш калгас.

**Сьцяпан Сямашка.**

## ЗЬМЕСТ



# Перапіска з селькорамі

**Гарэліку Б.** (*Жлобінскі раён*). Ваш артыкул ня будзе зьмешчан, спазьніўся. Пішэце, як ваш калгас падрыхтоўваецца да ўборкі.

**Сьмеламу** (*Ветрынскі раён*). Допісы „Калгасы Ветрышчына не зразумелі карысьці зьдзельшчыны“ ня пойдзе. У вас адны агульныя разважаньні, няма лічбаў і фактаў. Пішэце, як у калгасах унядраецца зьдзельшчына ў сувязі з падрыхтоўкай да ўборачнай кампаніі і якія ёсьць недахопы ў гэтым напрамку.

**Самцэвічу** (*Барысаў*). Артыкул „Задачы краязнаўчых арганізацый у падрыхтоўцы і правядзеньні другой бальшавіцкай вясны“, „Калгаснае будаўніцтва і савецкае краязнаўства“, „Краязнаўчыя арганізацыі павінны прыняць актыўны ўдзел у падрыхтоўцы правядзеньня ўборачнай кампаніі,—ня пойдуць, аб гэтым ужо было зьмешчана ў нашай часопісі. Артыкул „Калектывізацыя ўзмацняе абароназдольнасьць краіны“, таксама ня пойдзе, вельмі няўдалы набор слоў.

Пішэце, як практычна калгасы падрыхтоўваюцца да ўборачнай кампаніі.

**Модліну Г.** (*Магілеўскі раён*). Ваш допіс „Баявая работа насьценгазэты „Золак“ будзе зьмешчан. Пішэце аб падрыхтоўцы калгасаў да ўборачнай кампаніі.

**Русовічу В.** (*Заслаўскі раён*). Аб пробным выезьдзе ў поле ў час веснавой сяўбы ня пойдзе, спазьніўся. Пішэце, як калгасы рыхтуюцца да ўборкі ўраджаю (рамонт уборачных машын, поліва і г. д.).

**Кавалёву** (*Клімавіцкі раён*). Допісы „Лічбы бальшавіцкай працы і аб сканчэньні веснавой сяўбы“ ня будуць зьмешчаны, спазьніліся. Пішэце, як ідзе ўборка, аб зьдзельшчыне, рэалізацыі пазыкі па калгасах і аднаасобнаму сэктару.

**Ігнацёнку** (*Касьцюковіцкі раён*). Ваш артыкул „Варашылаўцы рыхтаваліся да сяўбы па-сталінскі“ ня пойдзе. У вас толькі адны разважаньні, вельмі мала фактаў. Пішэце, як вашы калгасы праводзяць уборку ўраджаю (сена і г. д.).

**Русовічу В.** (*Заслаўскі раён*). Ваш допіс „Да перамогі“ ня пойдзе. Вы ўжо некалькі раз пісалі аб адным і тым-жа. Допіс „Прышла бальшавіцкая вясна“ спазьніўся. Пішэце, як у калгасах вашага раёну ўнядраецца зьдзельшчына і як пастаўлены улік працы.

**Яроменку** (*Полацкі раён*). Артыкул „Расьце калгасны рух“ ня пойдзе. Аб гэтым факце ўжо пісалася ў часопісі „Шляхі калектывізацыі“. Пішэце, як ідзе ўборка ўраджаю і ўлік працы.

**Брыгадзе: Савіцкаму, Кулакову, Галубову** (*Рагачоўскі раён*). Ваш допіс „Зьдзельшчына скараціла ход сяўбы“ будзе зьмешчан. Пішэце яшчэ.


Адказныя рэдактары: **С. Міцькоў, Н. Міхайлаў.**

ЦАНА 15 кап.

Падпісвайцеся — НА ЧАСОПІС —

Падпісвайцеся — НА ЧАСОПІС —

# „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“

Орган Наркамзему і Калгасцэнтру БССР. Выдавецтва ЦК КП(б)Б „Калгасьнік Беларусі“

## Часопіс шырока асьвятляе пытаньні калектывізацыі сельскай гаспадаркі, жыцьцё і працу саўгасаў, камун, арцеляй, вытворчых таварыстваў

Кожная калектыўная гаспадарка, кожная вёска павінны выпісваць часопіс. Кожны калгасьнік, кожны бядняк і серадняк павінен чытаць

часопіс „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“

ЧАСОПІС РЭГУЛЯРНА ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ НА 32-Х СТАРОНКАХ З ШМАТЛІКІМІ ФОТА-ЗДЫМКАМІ І КАШТУЕ ЎСЯГО ТОЛЬКІ:

| | | | |
|---|---|---|---|
| На 1 год | — 24 нумары | . . 3 руб. | |
| „ 6 мес. | — 12 „ | . . 1 „ | 50 к. |
| „ 3 „ | — 6 „ | . . — — | 75 „ |
| „ 1 „ | — 2 „ | . . — — | 25 „ |

Падпіску здавайце на пошту альбо лістаносцу

Адрас рэдакцыі часопісу:

*г. Менск, Савецкая, 68, 2-гі паверх.*

Друкарня імя Сталіна. Заказ № 1426. 3 300 экз. Галоўлітбел № 1596.